**Окострожоный** *дзеепрым. Абгароджаны.* четвертый огородъ идучи до дворца, въ немъ садъ за дворомъ, который увесь щепами насажоный, тежъ около кострогомъ окострожоный (АВК, XIV, 201, 1580); плотъ около гумна и около двора окострожоный (Там жа, 202).

**Окошенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окосити. За окошене валу, где робили дали косцу на день осм. двадцать чотыри (ИЮМ, VIII, 161, 1691).

**Окоянство** *гл.* окаянство

**Окравовити** *дзеясл. Тое, што і* окрывавити *ў* 1 *знач.* коли простый хлоп або мещанинъ шляхтича собьеть ... а окравовит его, а онъ бы то правом перевел (Ст. 1529, 23).

**Окравокъ** *наз. Тое, што і* акравокъ. Адамъ поведа ес*т* ꙋчиненъе альбо сотворенъе божое, а евъга есть часть албо ѡкравокъ ꙋтинокъ створе*н*ѧ (Унія, 12).

**Окрадаемый** *дзеепрым. ад* окрадати *ў* 2 *знач.* Але мнѡгіи, и мешкаючой в них[s] ласцѣ, окрадаеми ѡ*д* грѣха, того до себе не знают[s] (Мак., 144).

**Окраданый** *дзеепрым. ад* окрадати *ў* 1 *знач.* такій ... ѡкраданъ бываетъ ѡ*д* діавола невидоме, и не треба емꙋ длѧ чꙋдовъ его вѣріти (Мак., 151).

**Окрадати** *дзеясл.* **1.** *Абкрадаць, пазбаўляць якіх-н. каштоўнасцей.* другое злодейство, иже именьѧ церковного вживают, а за тое досыть не чинѧть. А тымъ обычаемъ и в[s] духовны*х*, и в[s] дочасны*х* речахъ окрадают[s] ꙋбогих[s] х҃ртианъ (Будны, 89б).

**2.** *Падманваць, хлусіць.* злодѣемъ и розбойникомъ называнъ бываетъ, кгды превротными мыслѧми окрадаетъ (Каліст, II, 237).

**Окрадатися** *дзеясл., зв. ад* окрадати *ў* 2 *знач.* Нѣкоторіи ... злыми мыслѧми зведены, ѡкрадаютъсѧ ѡ*д* грѣха, еще бꙋдꙋчи в ласце Б҃жей (Мак., 180).

**Окраденый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* окрасти *ў* 1 *знач.* Ерини*х* бо не може*т* ѡкраденъ быти татьми (Чэцця, 167); мы отъ вашихъ людей воровскимъ обычаемъ на всемъ изобижены, розбиты и окрадены есьмо (АЗР, IV, 465—466, 1615); емꙋ и кони поздыхали вси в дорозе ѡкрадено его зе всимъ (Пралог, 653); ѡди*н* зацны[s] чл҃вкъ ѡкрадены[s] бы*л*, и кꙋ великомꙋ ꙋбозствꙋ пришо*л* (Зб. 82, 143).

**2.** *Ашуканы.* з[s] прирожен*ѧ* добротливыи не бꙋдꙋт[s] ли осторѡжны, сна*д*не ѡ*д* самой той дѡброти окрадены, а мꙋдріи ѡ*д* самои мꙋдрости помкнены бꙋдꙋтъ (Мак., 172).

**Окраденье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окрасти *ў* 1 *знач.* першее окраденье тое церкви Старовольское, яко прошлого году, онъ

же учынилъ (АВК, XVIII, 235, 1614); це*р*ковъ православнаꙗ ту*т* в<sup>s</sup> панствѣ то*м* христіанско*м* лꙗме*н*тує*т*, в<sup>s</sup> ѡкраде*н*ю ѡ*д* злодѣевъ полуде*н*ныхъ (то е*ст* уніатовъ прокл ꙗтых) ложа мысле*н*наго саломона (Дыяр., 160б).

**Окрадовати** *дзеясл. Абкрадваць.* С͠токрадцтво есть гвалтъ оучиненный ... коли кто ... Ц͠рковъ выламꙋетъ, ѡбалѧетъ, запалѧетъ, ѡкрадꙋетъ, шпетитъ (Зб. вып., 105б).

**Окраса** *наз.* **1.** *Упрыгажэнне (дзеянне).* завесихъ серѧзи во ꙋши еи на окрасꙋ лица еꙗ (Скар. КБ, 43б); ѡбъвезꙋю брата моего ... абы справилъ келихъ кꙋ ѡкрасе костела (КВС, 459, 1552); Съ копьями не было ледво сто и колькодесять чоловѣкъ, которые тутъ пріѣхали для окрасы, для игры и гонитовъ (АЗР, IV, 297, 1608).

**2.** *Прадмет, прызначаны для аздаблення каго-, чаго-н.* матка починаеть такіе сорочки дѣлати и простири и ине ѡкрасы дочце (Валх., 70б); сложили суть сынове Ізраилевы окрасу свою, ю же несоша ѡ*т* горы Хоривъ (Скар. КВ, 63); грабство, которое его милость ... съ всим вывышенемъ оздобою и окрасою на вечные часы уживати и на особахъ своихъ носити мають (АВК, XXXVI, 169, 1582); за тымъ церкви Божіи зъ ихъ окрасами на лупъ приходили (АЗР, IV, 204, 1600—1605); если найдꙋ ласку пере*д* гсде*м*, вороти*т* мнѣ за*с*, и ꙋкаже*т* мнѣ ю и ѡкрасу свою (Біблія, 384); ѡны те*ж* жадной ѡкрасы не шукаю*т*, ѡдно што имъ богъ промысло*м* далъ (Алекс., 32б); ꙋтваръ, оукрашеніе: Ѡхендозство, краса, мониста, ѡкраса, честно*ст*, скромнос*т*<sup>s</sup> (Бяр., 183); тꙋрки ... ц͠ркви монастыри и вси ѡкрасы хре*ст*иꙗ*н*скии пусты ꙋчинили (Зб. 752, 111). // *перан. Тое, што прыносіць славу каму-, чаму-н., прадмет гонару каго-, чаго-н.* бы ты была вѣдала твоего милого с͠на ... верхънемоу ц͠рю ровного. ѡкрасоу правды предъ оученики своими клѧчоу*чо*го на колѣнехъ (Пак. Хр., 5); ѡкраса и ѡздоба народꙋ ихъ, в<sup>s</sup> потомстве и*х* ѡ*т*нѧта, а просто загинула (Цяп. Прадм., 268б); Постъ дꙋшѣ ѡ*т*нова, тѣлꙋ поправа ... дѣвствꙋ оздоба, вдовствꙋ окраса (Каліст, I, 43); ꙗкъ бы еи заповѣдми цнотъ, нбсного Д҃ха ѡкрасою а оучастницствомъ, чистости и с͠тости Х͠вой приѡздобити (Мак., 83); праздни*к* е*ст* ѡкраса ц͠рква*м* (Жыц. св., 123б).

**3.** *Прыгажосць, хараство (уласцівасць прыгожага).* ꙗко домъ маючій Гсда притомного, вшелѧкой оздобы піенкности, и окрасы полонъ (Мак., 304); церковь ... которая вся опала была, реставруючи, и до давной въ ней окрасы приводячи (АСД, II,

52, 1634); Бл҃голѣпіе: Ѡздоба, лѣпота, ѡкраса, пенкность, краса наѡздобнѣйша, пристойност^s (Бяр., 5).

**Окрасити** *дзеясл.* **1.** *Упрыгожыць, аздобіць.* которую цр҃квь костѧнтин заложил, а ее столпи мармоурове ... самъ поднимал, и иными розмаитыми ѡкрасами ѡкрасил (Валх., 75б); ѹчинилъ также Саломонъ престолъ царскии с костеи слоновыхъ, и окрасилъ и златомъ рижимъ (Скар. ТЦ, 150б); Тогды вставши вси девки тые и окрасили каганъцы свои (Цяп., 35б); Костанти^s ... хорѹгви свои з^s именем хрстовым, и написом ѡным ... ѡкрасил (Бельск., 275). // *перан. Прынесці славу чаму-н., стаць прадметам гонару каго-н.* лепота жены доброе окрасить домъ свои (Скар. ІС, 43); так великими звитѧзствы початки панованѧ своег з дарѹ бж҃ог ѡкрасил (Бельск., 376—376б); што больше^s вси продки свое ѡкрасила ты коли их во всех цнотахъ своих переходиш (Зб. 259, 438б); *прыхарашыць.* ѡнъ ... ѡкрасившы речъ свою и ѹвезалъсѧ в люди мои невинъне (КВС, 654, 1552).

**2.** *Афарбаваць.* таоурос ... бела барва мнѣ дано. бы в темна ни ѡкраше [!] (Неба, 69б).

**Окрасти** *дзеясл.* **1.** *Абакрасці; пазбавіць якіх-н. каштоўнасцей.* его чл҃векъ злодейскимъ ѡбычаемъ ѡкралъ мя (КСД, 199, 1514); ѡн мене ѡкрадшы многие шкоды мне почынивъшы ѹтекъ прочъ (КВЗС, 106, 1539); который наймитъ ... похвалки на мене чинилъ, хотечи мене окрасти (АВК, XXII, 216, 1565); слуга мой ... потаемне, здрадецкимъ обычаемъ, окрадшы мене, пана своего, утек (АВК, XXXVI, 66, 1582); тая Зофія съ тыми дѣвками ... пана своего и жону его окравши ... прочь поутѣкали (АВК, VI, 65, 1589); Купили до турмы мескія на вязней Боцова сына и жону его, которая окрала людей розныхъ ... железы конскія и замки два для окованя (ИЮМ, VI, 45, 1689).

**2.** *Украсці, прысвоіць сабе (што-н. чужое).* прызналъ се, ижъ тые пенези окрадъши, сховалъ ихъ на городе тоежъ Семеновое, у дровахъ (ИЮМ, VIII, 254, 1597).

**Окрачати** *дзеясл. Утаймоўваць, уціхамірваць.* въ той избѣ нѣкоторые окрачаючы оного Гошка, же се съ того не мѣло ничого въ злое обернути и оного Юрка ... зъ дому его Гошкового Голшанского выпровадили (АСД, I, 296, 1636).

**Окрашати** *дзеясл. Упрыгожваць, аздабляць.* будуете гробы пророцкие, и окрашаете могилы справедливыхъ (Цяп., 33); цр҃ковъ тежъ тые, которых покрыла ... сп҃сителева слава, всю цр҃ковъ всѧкими окрашаючи дарами, и положивши на той

нбсной тверди нѣкоторых накшталтъ ѕвѣздъ свѣтѧчихсѧ (Апакр., 185б); насѣнѕѧ звнѹтръ выдають видомое ѡдѣнѕе, и самыи Лиліи звнѹтръ выносѧть покривала, и ѡкрашаютѕ землю (Мак., 295); былъ ѹчиненыѕ диꙗкономъ црквиримское, которыѕ не толѕко такими стопнꙗми слѹжбѹ црквною ѡкрашалъ: але тежъ и цноте през нее чес*т* дае*т* (Пралог, 663б). // *перан. Прыносіць славу чаму-н., быць прадметам гонару каго-н.* королеве неколи перькгримове ѡкрашають место констѧнтиново (Валх., 96); стане*т* [то*т*] на фѹндаменте его ѡ*т*имаѧ и потискателѧ ѡкрашаѧ (Зб. 262, 125); *надзяляць, адорваць (шчасцем, удачай і пад.).* До тог часѹ досы*т* до*л*го гдъ бгъ то*м*ѹ незбо*ж*номѹ цесарови, те*р*пѣ*л*, и зло*ст* его зноси*л*, и щ*а*с*тем* его свѣ*т*ски*м* ѡкраша*л* (Бельск., 277).

**Окрашаючий** *дзеепрым. ад* окрашати *ў* 1 *знач.* бо ты естесь петръ и петровѹ столицѹ ѡкрашаючи*и* и радечи*и* тѹтъ прави при*и*ди до царогородѹ противъ геретыкомъ ѡбразоборъцомъ ѡ*т* заходѹ слонъца (Бер. саб., 33б); гледꙗчи на мефодиꙗ столицѹ ѡнѹю епскпъю высоко*ст*ю цно*т* своих ѡкрашаючого, на его и правовѣ*р*ных пога*н*бе*н*е направили ... ѡднѹ невѣстѹ (Бельск., 369б).

**Окрашение** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окрасити *ў* 1 *знач.* кажьномѹ чл҃вкѹ въ его доспехѹ во его цюдності и во его сілѣ не е*ст* досыть окрашеніꙗ (Вісл., 9б—10); онъ ... чинѧше на васъ пиры, и давалъ запоны златыи на окрашение ваше (Скар. ДЦ, 67б).

**Окрашеный, окрашоный** *дзеепрым.*. **1.** *Ад* окрасити *ў* 1 *знач.* таѧ гора кроу*г* и ѡколо скалами и зыѡлы и росмаиты*м* дерьвьемъ [!] велми есть ѡкрашона (Валх., 42б); кро*л* ѳиле*н* ме*л* возъ ве*л*ми дивныи ... а кола его были с та*к* рекучего древа гебану*с* а зверхѹ положены злото*м* кторого*ж* оусправа была зверхѹ ѡкрашена перлы (Троя, 33б); вернѹсѧ вѕ домъ мой ѡ*т*кѹле вышоломъ, и пришедши находи*т* порождень, ѹметеный и окрашоный (Цяп., 16б); принесла ему коронѹ золотую каме*н*ми велми коштовны ѡкрашонѹю и з диꙗменто*в* (Алекс., 41). // *перан. Праслаўлены.* ани те*ж* есть которе место такъ сличны*м* людо*м* и слоугами бж҃ьими ѡкрашоне какъ место коленское (Валх., 95); жаде*н* не може*т* бы*т* збаве*н* е*д*но през верѹ хсвѹ добрыми ѹчи*н*ки окрашенѹю (Пс. XVI, 128); которих мѣсто наѹкою ва*л*ченꙗ немнѣй было ѡкрашоно (Алекс., 12); кождый особливе славою Дх҃а окрашенъ и приоздобленъ бѹдетъ (Мак., 296); добродѣтелью и всꙗкими цнотливыми поступки будѹчи ѡкрашеныѕ (Зб. 82, 432б); *ушанаваны; удастоены чаго-н.* не е*ст* досыть окрашеніꙗ колі не бѹдеть

правы ѡкрашенъ (Вісл., 10); боѧре за рꙋкы свои повѣшаны, лица старых не ѡкрашены (Зб. 262, 113б); псалмъ ... который о хс҃е ꙗк мел встат з мр҇твых в теле оувелбеном и ѡкрашоном (Пс. XVI, 94б); *аздоблены, прыпраўлены (пра мову).* ѡттул шло иж дш҃а такими цнотами ꙋбогачонаꙗ, мовꙋ теж и ꙗзык дивною вдꙗчностю ѡкрашенꙋю мѣла (Зб. 752, 549б).

**2.** *Ад* окрасити *ў* 2 *знач.* рак ... мнѣ ест барва бела дана, бы в тем младость ѡкрашена (Неба, 71).

**Окрашивати, окрашовати** *дзеясл. Упрыгожваць, аздабляць.* вси палацꙋ моего скарбы зпорожнѧю, бꙋдꙋючи коштовные божницы на честь богомъ, и ѡные вшелѧкою ѡздобою ѡкрашꙋючи (Варл., 220—220б). // *перан. Прыхарошваць.* къ тобѣ брату нашому многокроть пословъ своихъ посылалъ, окрашиваючи свою рѣчь и оповѣдаючи правду свою (АЗР, II, 39, 1508).

**Окрашоный** *гл.* окрашеный

**Окрвавеный** *дзеепрым. ад* окрвавити. окрьвавеного, збитого ... ошарпавшы его ... яко на него поспольство напало, згинуло с кешени таляровъ битыхъ десеть (АВК, XX, 323—324, 1638).

**Окрвавенье** *наз. Апаганенне кроўю.* окрвавене монастыра кровию отца Уріила ... согласно сознали (АСД, II, 138, 1667); не могуть ... отповѣдать и форумъ ексциповать ... о збитье ксенжи и окрвавенье цментара (АВК, XV, 335, 1673).

**Окрвавити** *дзеясл. Тое, што і* окрывавити *ў* 1 *знач.* рече Трыщан: Паметаи сѧ королю, абых ти рукъ не ѡкрвавилъ, але болшъ того не умѣю (Трыст., 111); пестями биючи, тваръ мою окрвавилъ, и отповедь учинилъ (АВК, XVIII, 145, 1597); онъ, помененой [!] Марко ... пана подстаростего и лентвойта Кричевского, невинне киемъ збилъ и окрвавилъ (ИЮМ, XVII, 210, 1663).

**Окрвавление** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окрвавити. Повинности кождого Іереѧ сꙋть тыи: абы ... зѕ людми свѣцкими не засѣдалъ, бо зѕ таковаго засѣданіѧ бываютъ звады и пѧнства, а при пѧнствѣ битіѧ, и окрвавленіѧ (Зб. вып., 57—57б).

**Окрвавляяй** *дзеепрым. у знач. наз. Той, хто раніць каго-н., праліває чыю-н. кроў.* палѧй, ѡкрвавлѧѧй, или выламлѧющій Цр҇ковъ, ѡпрочъ грѣхꙋ, впадаетъ вѕ Клѧтвꙋ (Зб. вып., 105б—106).

**Окрентовый** *прым. ад* окрентъ. надаемъ имъ до печати мѣстской гербъ, корабль окрентовый, которого и передъ тымъ мѣсто Полоцкое уживало (АЗР, III, 256, 1580).

**Окрентъ** *наз. Тое, што і* окрутъ. Илариѡн на заходные стороны ꙋтекалъ и пустил в ѡкренту до сикилии земли волоскои (Зб. 81, 40б); Евстафиѕ з жоною и с сынами своими пришол до морꙗ и видит окрентъ плаваючиѕ (Зб. 752, 107); окренты

црскіи ходили до тарсисъ з слꙋгами Хірамовыми разъ в[s] три лѣта (Хран., 299); коли на морꙋ розоб'ет[s]сѧ окрентъ, людіе хватают[s]сѧ дощки, абы на ней приплыли до берегꙋ (Зб. вып., 34).

**Окрепити** *дзеясл. Умацаваць, зрабіць больш моцнымі асновы чаго-н.* станет на фꙋндаменте его оуничиженыи и тот што не дали на него красы црскои и пріидет по мирꙋ и ѡкрѣпит црство гладкоıазычемъ (Зб. 262, 125).

**Окрепитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* окрепити. коли се такъ ѡкрѣпили и ѡбмоцнили, теды и з неволи из подданства се вавилонскои и халде[s]скои выбили (Біблія, 610).

**2.** *// перан. Набыць большую сілу, стойкасць.* коли поустишь полкъ на них, то шли с ними слоны и тꙋры, иже в них стрелцы великіи, и пꙋшечники, внегда боудеть им страх, да ѡкрепитсѧ срдце их с ними (Арыст., 172).

**Окреплый** *дзеепрым. Паздаравелы.* ѡбачатъ его еще на колѣнахъ по смерти кланıаючогосıа и такъ ѡкрѣплого (Пралог, 618).

**Окресленый** *дзеепрым. Акрэслены, дакладна вызначаны.* на собѡрѣ никейском границы власти римского бискꙋпа соуть окрѣслены (Апакр., 124б).

**Окресленье** *наз. Акрэсленая мяжа чаго-н.* беда томꙋ которы[s] за ѡкресленемъ и колькомъ того цыpклю не на[s]дꙋетсѧ (Зб. 259, 542).

**Окрестити, окристити** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* охристити. которыхъ же всехъ ... оуздоровил, и к вере навратил, и ѡкристил (Валх., 63б); филиппъ діаконъ молѧщому и каженику абы его окрстилъ, сими ѡтказалъ словы (Будны, 228); тотъ васъ окрестит дꙋхом[s] светым[s] (Цяп., 4); в сꙋботꙋ коли водꙋ постил силивестръ и в не[s] ѡкрестилъ костантина свѣтлост их ѡгорнꙋла (Бельск., 265б); Варлаам ... кролевского сна ... в[s] сажевце, котораѧ в[s] ѡгородѣ его была, ѡкрстилъ (Варл., 167б—168); если бы нꙋжда и гвалтъ вытѧгалъ, можетъ и непосвѧщеною водою ѡкрестити кого свѧщенник (Дзід., 6); не ꙋмрꙋ ажъ тебе своею рꙋкою ѡкрещꙋ (Зб. 82, 293); Чи может[s] Іерей жонатый свое дѣтѧ окрестити? (Зб. вып., 13). *Параўн.* окстити.

**2.** *// перан. Даць назву, мянушку каму-, чаму-н.* его [Римъ] недармо дрꙋгіе доктор ѡве вавилономъ и вшетечницею порфирою прибраною окрестили (Апакр., 160б); чому жъ васъ католицы и увесь костелъ Римскій схизматиками окрестилъ (Пыт., 10).

**Окреститися, окриститися** *дзеясл. зв. Тое, што і* охриститися. поимет Кгинвилъ дочкꙋ оу великого кнзѧ Тверьског Бориса именем Марью длѧ которое жь ѡкристилсѧ в Роускꙋ

вѣрꙋ (Крас., 68); пришолъ исусъ ѡт назарета галилейского, и окресьтилъсе ѡт иоана в[s] ердане (Цяп., 43б); екга[s]ло ... поехал до кракова до полские земли там же ѡкрестилсꙗ сам и братꙗ его (Патр. К, 48б—49); дрꙋгие ѡкрестилисѧ в полскую верꙋ (Царств., 75б); Свѣтослав игорович внꙋкъ рꙋриков коли сꙗ емꙋ матка ѡкрестила ... собрал великое во[s]ско з[s] землъ своих (Стрыйк., 442б); окрестивши сѧ Іс̃ вышолъ заразъ з[s] воды (Каліст, II, 279б); если се хто не ѡкрстит не может спстисѧ (Навука, 7—8); если оувѣришъ и ѡкрстишъсѧ, сп̃сенъ бꙋдеш[s] (Варл., 85б); Третее есть Крещеніе през[s] Дх̃а Ст̃гѡ, то есть за надхненем егѡ до срдца, абы ѡкреститисѧ хто прагнꙋлъ (Дзід., 7); хто хочет зостатъ хрестиꙗниномъ, скоро се ѡкреститъ пущꙋ его волно, неха[s] идетъ где хочетъ (Пралог, 565).

**Окрестный** *прым. Навакольны.* приходили къ намъ жалобы ... о подаванье церквей Божихъ, и ключовъ, и пописыванье скарбу церковного Пречистоѣ Богоматери и всихъ церквей окрестныхъ (АЗР, II, 398, 1544); мы не смѣемъ и не можемъ ... такъ въ церкви соборной, яко и въ церквахъ окрестныхъ фалы Божой отправовать (АВК, VIII, 17, 1595).

**Окрестъ I, вокрестъ** *прысл. Вакол.* два ан̃гла ... ꙗвисѧ же на. свѣтлое носѧщи ѡдѣние. препоꙗсанна ѡкрестъ (Чэцця, 63б); Призывал[s] есть силнаго бога вышнего побиѧꙗ врагы окрестъ (Скар. IC, 73б—74); ѡтвѣща диавол[s] и рече прѣд[s] гсдемъ, едали Иовъ празно чтить бога не ты ли оградилъ еси его и домъ его и все имение его окрест[s] (Скар. KI, 5); велѣлъ Саоулъ вокрестъ стоѧщимъ служебникомъ абы которы скочивши ꙋбилъ Ахимелеха и сыны его (Будны, 59).

**Окрестъ II** *прыназ. Вакол.* окрстъ ихъ боудет много злых людеи на земли (Сівіла, 5); аще родитсѧ ... знамѧ имать ѡкрстъ носа (Неба, 87); Сынове твои ꙗко новоросли маслинные окрест[s] трапезы твоеѧ (Будны, 72).

**Окресщение** *гл.* окрещенье

**Окрещати** *дзеясл. Хрысціць, падвяргаць каго-н. абраду хрышчэння.* жоны отъ мужовъ и дѣтей отъ отцовъ съ животы отнимаючи, силою окрещаютъ въ Римскій законъ (АЗР, I, 207, 1500).

**Окрещение** *гл.* окрещенье

**Окрещеный, окрещенный, окрещоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* окрестити *ў* 1 *знач.* наоучилъ их діаволъ абы вѣрили иж безъ наоуки, безъ вѣры, и безъ исповѣданіа можеть человѣкъ спасенъ быти, тольки бы водою въ детинъствѣ окрещонъ былъ

(Будны, 6б—7); Людей добрыхъ а во имѧ ѡтца и сына и светого дх҃а в церкви божоѕ вже ѡкрещеныхъ зновꙋ крестити понꙋрити (Унія, 2б); народѡм иерейскимъ и црьским естесмо всѣ, которые окрщени во хѧ҃ хрстіаны называни бываемо (Апакр., 62); витолтъ ѡкрещонъ ꙋ кракове посполу з ıакгеѕломъ (Патр. П, 13б); Іꙋлиıан вѕ вѣре хрстиıанскоѕ выхованыѕ и ѡкрещоныѕ, скоро на панство встꙋпил (Бельск., 277б); хрстіане ѡкрещены Дх҃омъ ст҃ымъ, прожни злости бываюm (Мак., 339); ѡдинъ с посполства приѕде до Іѡанна, абы былъ ѡкрещоныѕ ѡт него (Зб. 259, 527); в тоѕ вѣре ꙋмерти хочу, в котороѕ есми ѡкрещенныѕ (Пралог, 487). *Параўн.* окрщеный.

**2.** *У знач. наз. Чалавек, які прыняў хрысціянскае веравызнанне праз абрад хрышчэння.* Церковъ Греческая по крещенію, потвержаючы и печатуючы крещеніе, помазуетъ окрещенного миромъ великимъ (Гарм., 194); Дх҃а ст҃го ласка вѕ дꙋшꙋ ѡкрещенного вселѧетъсѧ, ѡнꙋю ѡсвечаючи (Варл., 61); пришли до домꙋ ѡного где вси ѡкрещеные молитву чынили до бг҃а (Зб. 752, 554б); ѡны ѡкрещеніи просили епископа, абы ихъ божницꙋ на церъковъ по҇стилъ (Зб. 82, 43б).

**Окрещенье, окресщение, окрещение** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окрестити *ў* 1 *знач.* виненѕ таковый чл҃къ, не только до крсщніа, але наболей по окрсщеніи по воли божіей жити (Будны, 229); вѣру приняли продкове наши въ той Малой Россіи за окрещеньемъ великого князя Володиміра (АВК, VIII, 44, 1601); Тымъ Крещеніемъ крестилисѧ тые, которые без ѡкрещеніа водногѡ, за оувѣренье вѕ Хѧ҃ оумꙋчены зостали (Дзід., 7); Грѣхи ѡдны сꙋть пред ѡкрещеніемъ (Сакр., 3); на окрещене дитяти знайденого дали полталера (ИЮМ, II, 149, 1684); Чи потребный естъ до окрещеніѧ дѣтѧте, кꙋмъ, и кꙋма (Зб. вып., 12).

**Окрещоный** *гл.* окрещеный

**Окреяти** *дзеясл. Акрыяць, ачуняць, акрэпнуць.* самъ Стехно, окреявъши, втекъ до Острея (КЗ, 477, 1448); царь ... взѧлъ ю на руце свое абы окреѧла (Скар. КЕ, 23б); Потомъ пакъ егда окреѧлъ есть поклонисѧ лицемѕ своимъ предъ іꙋдиѳомъ до земли (Скар. КЮ, 22). *Параўн.* откреати.

**Окривавити** *гл.* окрывавити

**Окривавитися** *дзеясл., зв. ад* окрывавити *ў* 1 *знач.* весъ дом иıакововъ ѡкривавилсıа зелживостию поган (Зб. 752, 93б).

**Окривавленный, окровавленый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* окрывавити *ў* 1 *знач.* состави тѣла вашего ... кровию ѡкровавлени црк҃ви делѧ (Чэцця, 231б).

**2.** *Ад* окрывавити *ў* 2 *знач.* ѡ*т* ша*т* его ѡкривавле*н*ныхъ ча*ст* нѣꙗкую взꙗвши ѡ*т*ишо*л* (Зб. 752, 80).

**Окриваный** *дзеепрым. ад* окрывати *ў* 1 *знач.* не давано ему сукни ани кошули, але леда лахмани*н*кою его ѡкривано (Пралог, 519б).

**Окривати** *гл.* окрывати

**Окриватися** *гл.* окрыватися

**Окриваючий** *гл.* окрываючий

**Окривити** *дзеясл.* **1.** *// перан. Сказіць, выставіць у няправільным святле.* ѡ*т*вечал бил^sда*д* шꙋхииски и ре*к*: ... вѣтръ силныи рѣчи оустъ твоихъ: бо*г* ли ѡкриви*т* соу*д* или шадаи ѡкриви*т* праве*д*ливость (Зб. 262, 15).

**2.** *// перан. Несправядліва абвінаваціць.* бо*г* насыщает^s мѧ горкостѧми: ... направлю*л* оуста свои ѡбвінювати*т* мѧ цѣ*л* есми ѡкриви*т* мѧ (Зб. 262, 15б). ◊ О к р и в и т и у с т а — *схлусіць, сказаць няпраўду.* волхованіе на оустѣхъ цр҇ьскихъ на сꙋдѣ не ѡкривить оустъ свои*х* (Зб. 262, 101).

**Окривленый** *дзеепрым. у знач. прым. // перан. Няправедны, грэшны.* хто ходи*т* полностью сп҇стсѧ и хто ѡкривленыи пꙋт^sми оупаде*т* въ дно (Зб. 262, 108).

**Окривляти** *дзеясл.* **1.** *// перан. Скажаць, выстаўляць у няправільным святле.* справне бо*г* не виновати*т* и шадаи не ѡкривлѧе*т* сꙋда (Зб. 262, 26б).

**2.** *// перан. Несправядліва абвінавачваць; няславіць.* роука гн҇ѧ оучинила сее: и*же* в роуцѣ его дш҇а всѧка жива ... води*т* ерѣевъ глꙋпостью и велеможны*х* ѡкривлѧеть: ѡ*т*имае*т* оуста вѣрникѡ*м* (Зб. 262, 17). ♦ О к р и в л я т и п у т и — *няправедна жыць.* ходи*т* правинею своею б҇обоиныи а ѡкривлѧеть пꙋті его ганить емꙋ (Зб. 262, 100).

**Окрикъ, окрыкъ** *наз.* **1.** *Крык, вельмі моцны гук голасу; баявы кліч; вокрык пагрозы.* будучы незвыклым ѡкрыкомъ угров на знак татарского ѡт них учыненымъ ѡбужоны, не вѣдали што бы чынить (Атыла, 174); оные мѣщане звышмененые съ помочниками своими окрикъ великій на насъ учинили (АВК, VI, 64, 1584); молва — гомонъ, гꙋ*к* ѡ*т* мовы лю*д*скои, окри*к* и ты*ж* трвога (Зіз., 110б); ѡ*л*га в то^s ча*с* до штꙋрмꙋ зо всих сторо*н* з^s ѡгромны*м* ѡкрико*м* и вереско*м*, пристꙋпила (Стрыйк., 441б); припали ту*р*ки ѡкрикъ велики^s ꙋчинивши (Хр. польск., 16б); паробокъ мой дворный ... почувши, же тое жито берутъ, окрикъ учинилъ (АВК, XVIII, 312, 1630); мѣщане ... учинивши великій бунтъ и окрыкъ, тыхъ кгвалтовниковъ ... отняли и

отбили (АСД, I, 275, 1633); ѡкрик згодны[s] ... камени[s] рꙋцанꙗ тарановъ битꙗ ѡгневъ розност видзꙗна была (Зб. 259, 582).

**2.** *Папрокі, нападкі.* геретыцы чынꙗт на то ѡкрикъ. не потреба мовꙗт бг҃а по розныхъ местцахъ шꙋкат (Аб абр., 11, 1622); нѣкоторыя особы ... противъ того нашого сполного вынализку ку оборонѣ, протестовалисе и розными окриками, галасами мене въ ратушу опрымовали (АСД, I, 271, 1633); видечы бовем иж се пилат склонꙗет до выбавенꙗ господнего ꙗких ѡкрыков не чынꙗт, ꙋдаючы иж всю галилею взрꙋшыл (Зб. 255, 260—260б).

**3.** *Рэзкія, моцныя па сіле гукі.* ꙋчинили велики[s] ѡкрик трꙋбами римлꙗне мовꙗчи взꙗлисмо ерꙋсалим (Бельск., 233).

**4.** *Лямант, плач.* не нашовши его сами се дей на фортель заторгнули, межы собою пахолика якогось огорнули и окрыкъ надъ нимъ учинили (АСД, III, 73, 1611).

**Окристити** *гл.* окрестити

**Окриститися** *гл.* окреститися

**Окрити** *гл.* окрыти

**Окритися** *гл.* окрытися

**Окритый** *гл.* окрытый

**Окритье** *гл.* окрытье

**Окровавленый** *гл.* окривавленый

**Окровавленье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окрывавити *ў* 1 *знач.* хотѣли есьмо занести до книгъ кгродскихъ Виленскихъ протестацію о гвалтовномъ отнятьѣ отъ стороны зъунѣеваной тѣла змерлой невѣсты вызнанія нашого, такъ тежъ и о збитье и окровавленье господыни (АЗР, IV, 519, 1630).

**Окроме, окромя** *прыназ.* **1.** *Тое, што і* окромъ *у* 1 *знач.* до жадных судов давати не будем а ни потомки наши будуть давати ѡкроме толко трех члонковъ (Ст. 1529—Ф , 7); вольности и позволенья такового жадинъ ... меть и одержати въ его милости не можетъ, окромя его (АВК, XX, 4, 1548); таинъ нельза никому иному ꙋставлѧти, окроме бг҃а или сына его (Будны, 234б); забыли ꙋченикі его взѧті хлебовъ, и окроме одного хлеба, не мели [большъ] з[s] собою в[s] лодьи (Цяп., 54); нигъде дей инъдей над то оселости не маемъ, окроме одного дворца (АВК, XXXVI, 31, 1582); ꙋставуемъ абы судьѧ подъсꙋдокъ и писар сами через себе, а не черезъ свои наместъники сꙋды и роки ѡтправовали, ѡкроме того если бы котори[s] з них самъ захорелъ (Ст. 1588, 126); папежове римскіе зо всѣмъ хрстіанствомъ в том[s] календарꙋ ѡтмѣны не чинили, окроме што свѧтам праздникѡмъ часы певные назначиваны бывали (Апакр., 47б);

его королевсая милость ... рачилъ имъ надати ... вольность ... вызваляючи отъ иншихъ розныхъ податковъ, окромѣ мыта старого (АВК, VIII, 501, 1615).

**2.** *Тое, што і* окромъ *у* 2 *знач.* в тои книзе есть словъ безмала м҃. ѡкромѣ приточніка (Чэцця, 287); Поделал[s] ... окроме тых[s] иныхъ пѧть жеръдок[s] к западнеи стране храму противу морѧ (Скар. КВ, 69); зломитьс црство его и роздѣлитсѧ на чотыри страны ... рассыплетьс црьство его и иным ѡкромѣ сих (Зб. 262, 124б); тотъ жо небощикъ анъдре[s] ѡкроме тыхъ пнзе[s] былъ мне виненъ двадцать копъ гроше[s] (КВС, 449, 1552). ◊ Окроме того — *акрамя таго, да таго ж (у знач. пабочнага слова).* окроме того теже вѣдати надобѣ, иже властиве говорѧчи, единъ только самъ Богъ есть всее твары и отецъ и господинъ царъ, кнѧѕ, и Богъ (Будны, 53б).

**3.** *Тое, што і* окромъ *у* 3а *знач.* а ѡкроме тых причинъ, такъ маньдатовъ, ꙗко и позвы наши никоторие за доводомъ нашимъ никомꙋ даваны быти не маютъ (Ст. 1588, 21); то естъ правдиваѧ повшехнаѧ вѣра, окроме которой нихто збавенъ быти не можетъ (Апакр., 45).

**Окромешний**, **окромешный** *прым. Знешні, які знаходзіцца звонку ў адносінах да каго-, чаго-н.* Внѣшнѧѧ: Ѡкромѣшнѧѧ (Бяр., 15); Свѣнный: Кромѣшній, ѡкромѣшный (Там жа, 144).

**Окромный** *прым. Асобны; своеасаблівы.* своихъ окромныхъ уставовъ и вымысловъ не уводили (АСД, IX, 63, 1568).

**Окромъ** *прыназ.* **1.** *Акрамя, апрача, за выключэннем каго-, чаго-н.* Слугамъ Путивльскимъ всимъ 15 копъ грошей з мыта въ Путивли окромъ бояръ (КЗ, 306, 1488); дерево на будованье хоромъ ... вольно имъ везде въ Бересте[s]скомъ повете ... брати, ѡкромъ дерева бортного и кромъ земянскихъ пушчъ (КСД, 894, 1516); таѧ ѡправа ее держана маеть быти ѡкром злодеиства (Ст. 1529—Ф, 59); Римѧнов велми много полегло, ѡкромъ троха, которые утечы могли (Атыла, 178); рыбъ въ нимъ ничого ку шацунку годного не было, окромъ плотицъ малыхъ троха (АВК, VIII, 418, 1586); ѡкром матки и сестри рожоное может кровнꙋю понꙗт (Наб. тур., 23); наметꙋ и сам не знал, ѡкром во[s]лока а ѡпанчи, а ꙋ головꙋ седло, на голо[s] земли, под небом седал (Стрыйк., 442б); хто бы колвек през л҃ днии смел которого бга ѡ што просит, ѡкром самого кролꙗ, абы был лвом ѡтданыи на зедене (Жыц. св., 6). *Параўн.* окроме *ў* 1 *знач.*

**2.** *Больш каго-, чаго-н., у дадатак да каго-, чаго-н.* окромъ того, прыдали есмо тымъ тремъ попомъ и дьякону рубль и чотыре грошы (РПП, 348, 1507); окромъ дворное пашни къ

Кнышину сто и тринадцать волокъ (АСД, I, 23, 1536); позвомъ тежъ в такихъ домехъ шлѧхе*т*скихъ ѡ крые*д*ы и*н*шие ... нихто ни на кого покладати не маеть, хиба жебы инъшое ѡселости земское ѡкро*м* того домꙋ тотъ нигде не мелъ (Ст. 1588, 116); wychożywało na nich obrokow na kożdy deń medu syczenoho sem sot boczok, okrom muszkatel, y win y małmazey (Бых., 525); розлꙋчилсѧ з свѣто*м*, дождавшисѧ внꙋко*в*, и пото*м*ко*в* свои*х* ... которы*х* всѣ*х* было ҂ка тисѧчи и сто мꙋжо*в* дорослы*х*, ѡкро*м* жо*н* и*х* и дѣте^s^ (Стрыйк., 415б); на то^s^ ва*л*цѣ побито пе*р*совъ трикро*т* сто тисечи^s^, ѡкро*м* ты*х* што потонꙋли (Алекс., 19б); бг҃ъ есть которы*и* створилъ нб҃о и землю, ѡкромь тогѡ бг҃а, не есть дрꙋгого (Хран., 26); Въ томъ вару пива пожытку окромъ свечъ и дровъ, золот. дванадцать и осм. два (ИЮМ, VII, 25, 1690). ◊ О к р о м ъ  т о г о — *акрамя таго, да таго ж (у знач. пабочн. слова).* имъ того ѡвса и куровъ и гусе^s^ и лою не надобе давати, ани которыхъ иныхъ дачокъ, ѡкромъ того, не мають давати и служобъ никакихъ не служити (КСД, 893, 1516). *Параўн.* окроме *ў* 2 *знач.*

**3.** *Без.* **а).** *Пры выражэнні акалічнасных адносін у спалучэнні з некаторымі назоўнікамі ўказвае на розныя акалічнасці (спосабу дзеяння, прычыны і інш.).* ижэ бы ѡ*т*права ... ты*м* снадне*и* ѡкромъ всѧкое проволоки и продо*лжэн*ѧ скутокъ и коне*ц* сво^s^ при^s^мовала (Ст. 1566, 68); стороне противной шкоды и наклады совито оправити маю, окромъ жадной прысеги ихъ одно на слово реченое (АВК, XXIV, 308, 1568); котораѧ ѡкром вѣдомости брата своего пославшы до Атыли просечы, если бы сѧ мѣлъ ѡженити, абы ее понѧл (Атыла, 231); так теж и сусед ... тых всих шинков волно и окром вшелякое трудности вживати мают (СДГВ, II, 2, 1582); розумеючы собе неправное и окром причыны в праве посполитом поднесене и скасованъе того декрету ... позвала ее милост пна старосту Вилкомирского (АВК, XXXII, 22, 1596); добре а ѡкро*м* грѣхꙋ ѡбышлисте сѧ зъ ероваале*м* и з домо*м* его (Біблія, 126б); то в на*с* сме*р*те*л*ны*х* и до грѣха скло*н*ны*х* ѡкро*м* великое працы и дарꙋ бж҃его быти не може*т* (Зб. 752, 467); зблуди*л* бы хто бы розꙋмѣлъ абы мо*ц*ю своею телесную роскошъ звитѧжи*т* ... и чистость захова*т* в тако^s^ ѡбе*ц*но^s^ покусѣ моглъ, ѡкро*м* милосе*р*диѧ твоего (Пралог, 528). *Параўн.* окроме *ў* 3 *знач.*

**б).** *Пры выражэнні аб'ектных адносін указвае на адсутнасць каго-, чаго-н.* сто копъ грошей сынъ мой, панъ Янъ самъ одинъ, окромъ иншое братьи своее, водлугъ листу своего,

сестрѣ своей паннѣ Ганнѣ посагъ ее отдати маетъ (АВК, XII, 544, 1616).

**в).** *Пры выражэнні азначальных адносін указвае на адсутнасць якой-н. прыметы, якасці і інш., выражанай назоўнікам.* за таковое невстыдливое примовенье окром истизны ... повинен буду вины двесте копъ грошей ... заплатить (АВК, XXXII, 52, 1596).

**4.** *Па-за. Пры выражэнні прасторавых адносін указвае на месцазнаходжанне або дзеянне за межамі чаго-н.* Которыˢ бы злодеˢ на его злочи*н*стве поˢма*н* бы*л* ѡкромъ дому его, а ре*ч* краденаѧ в дому его не была застата (Ст. 1529—Ф, 160).

**Окромя** *гл.* окроме

**Окропити** *дзеясл. Акрапіць, апырскаць.* никито. окропи на*с* ѡ*т* чаши тое (Чэцця, 35); окропиши мꙗ исофомъ. ѡчищю*с* ѡмыеши мѧ па*ч* снѣга оубѣлюсѧ (Там жа, 127б); не было тоеˢ шаты которой бы слезами не окропи*л* (Зб. 752, 34б).

**Окропление** *наз. Дзеянне па дзеясл.* окропити. Трема способами Крещеніе ѡ*т*правити сѧ можетˢ, полѣваніемъ воды на главȣ ... погрȣженіемъ въ Водѣ ... и окропленіемˢ воды (Зб. вып., 8б).

**Окропленый** *дзеепрым. ад* окропити. Еще не ѡкроплено ср*д*це наше кров*ю* Б҃жею, бо еще вˢ немъ сило пекелное, и оуда злости ткви*т* (Мак., 224); Зновȣ, таковыи ставшисѧ ꙗковои ласки годными, и, же такъ рекȣ, зˢ дна морѧ глȣбокогѡ, каплѧми нѣѧкими окроплены найдȣютъ (Там жа, 323). // *перан. Асвечаны.* почали люди прагнȣти мѣти ꙗкую паме*т*ку або зна*к* стра*с*теˢ хри*с*товых ... ѡно*г* древа, або кре*с*та на которомъ спасение нашо было ѡкроплено (Зб. 82, 23).

**Окропляти** *дзеясл. Акрапляць, апырскваць.* онˢ же окроплѧеть водою да исперетъ ризы своѧ (Скар. ЛК, 43б); Іѡасафъ теды ... звычайные псалмы на*д* нимъ ѡ*т*праволалъ ... дорогое тѣло блаже*н*ного мȣжа слезами ѡкроплѧючи (Варл., 355—355б). // *перан. Асвячаць, выконваць царкоўны абрад надання святасці.* по двои че*ст*ны*м* и жывотвор*ꙗ*щымъ кресто*м* гсдни*м* ѡкроплꙗˢмо (Зб. 752, 414б).

**Окропляющий** *дзеепрым. ад* окропляти. кровь агнеча и козлѧ и попелˢ юнице окроплѧщии поскверненыѧ освещаеть ко плотстѣи чистоте (Скар. КЛ, 4б).

**Окротити** *дзеясл. Утаймаваць, уціхамірыць.* розърывалисѧ ѡ*т* него ланцуги железныѧ, и пута зъкрушалисѧ, и ни*х*то не могъ его окротити (Цяп., 48б).

**Окротникъ** *гл.* окрутникъ

**Округло** *прысл.* **1.** *У даўжыню па акружнасці.* потвержаем ему ... Давыдов Городок ... со всими доходы ... которыи ... могут розмножены быти и росширены, так широко и далеко и округло, яко ж тыи вышей писаныи имѣня в сих своихъ границах имают ся (Пін., 7, 1499); дали есмо тотъ замокъ ... такъ долго и широко и округло, какъ ся здавна, за отца нашого ... въ своихъ границахъ мѣлъ (АЗР, II, 31, 1507); продалъ есми ... домъ ... со всимъ пляцомъ земъли такъ долго, широко и округло, яко ся тотъ домъ самъ въ собе ... маеть (АВК, XX, 20, 1568).

**2.** *У форме круга.* Там кгды емꙋ недоставало пн҃зеˢ, накраꙗно з скꙋр, ѡкрꙋгло пн҃зеˢ а вытискано на них знаки кролевские (Бельск., 399б).

**3.** *// перан. Грунтоўна, дакладна.* Всѣ свои концепта, в речій высокихъ оуважаню, окрꙋглѡ спорѧжати звычай маючіи люде, гды межи иншими и то лацнѡ обачити хотѧтъ, што бы за конецъ бѣгꙋ ... которогѡ чл҃вка былъ ... животъ людскій оуважати звыкли пѧтеракѡ (Сматр., 16—17).

**Округлость** *наз.* **1.** *Акругласць (уласцівасць акруглага, круглага).* през ѡкрꙋглост тои то пилы, тое собѣ розꙋмѣемы (Алекс., 8б); Называютсѧ приміоты хлѣбовые, іакѡ то квасност, смакъ, окрꙋглость, бѣлость, и проч (Сакр., 10).

**2.** *Тое, што і* округъ I *у* 2 *знач.* познали кто бы былъ створитель ... или духъ, или буръныи воздухъ, или округлость звездъ (Скар. ПБ, 19б).

**3.** *Тое, што і* округъ I *у* 5 *знач.* вселенноую и ѡкрꙋглость еи ты заложил еси (Пс. XVI, 90); в роуках его всѧ ѡкроуглост земли (Там жа, 96).

**4.** *Прадмет круглай формы.* на верху единое каждое подставки, была неꙗкаѧ округлость на полъдругаго локтѧ (Скар. ТЦ, 140); Гаѳоріимъ: Окрꙋглости, або ꙗблка (Бяр., 262).

**Округлъ** *наз. Тое, што і* округъ I *у* 1 *знач.* видим звѣздѫ на нб҃е а крстъ а ѡкрꙋг, а в том ѡкрꙋгле дв҃ицꙋ (Сівіла, 3).

**Округлый** *прым. Акруглы, круглы.* Полата пакъ большаѧ была ест округла (Скар. ТЦ, 137б); даемъ тому Ивану ... знамя гербъ ... сосну зеленую ... в щыте черъленомъ, а на верхъ щыта гелмъ округлый (Пін., 55, 1540); продалъ свирепу свою властьную .. петно на той же левой стороне на стегне заднемъ округлое (АВК, XXXIX, 247, 1579); за малыˢ ѡкрꙋглыˢ сыръ албо за малдрикъ ѡсмъ пенезиˢ (Ст. 1588, 514); фляшка округлая пулкгарцовая одна, фляшки две малые пласкіе (АВК, XIV, 357, 1590); Посеред тых палацов мѣл соломон столец своˢ, бар-

зо хандокги[s], з тылꙋ ѡкрꙋглы[s] (Бельск., 115б); на горѣ лѧсотне ѡбычаем поганским ꙋсыпано на его гробѣ высокꙋю могилꙋ ѡкрꙋглꙋю (Стрыйк., 601б); Арістофоронъ: Начине на котромъ [!] обѣды носѧтъ, або широкаа миса, або талѣръ, албо окрꙋглаа шиба котрою пред часы гравано (Бяр., 235); зерно горчычное ... ест малое, ѡкрꙋглое (Зб. 259, 175—175б); тогды роспаленыи долгие а ѡкрꙋглыи желѣза ... втыкано мчнком (Зб. 82, 340б). ◊ Округлый столъ — *круглы стол (кола рыцараў легендарнага брытанскага караля Артура).* было десет рыцэровъ ѡт Ѡкруглого стола, тые держали ѡдну руку против королѧ Іаниша (Трыст., 29).

**Округъ I** *наз.* **1.** *Круг, акружнасць.* видим звѣздѫ на нбе а крстъ а ѡкрꙋг (Сівіла, 3); ꙋдѣла[s]те теж ми свѣщникъ, албо лихтар з золота выборног з столцем своим, з квѣты и ѡкрꙋги которие сѧ мают ѡбертати на нем (Бельск., 50); мѣсто ерꙋсалим треми мꙋры ѡбточити, так бы в першом ѡкрꙋгꙋ была церков (Там жа, 113); по всем маестате были ѡбразы въ ѡкрꙋги оправлены (Алекс., 43б). *Параўн.* округлъ.

**2.** *Сфера (пра нябесную сферу).* ѡкругъ небесныи обыдохъ сама, и глубокость бездны проидохъ (Скар. ІС, 39); Египтѧне ... розность водъ морскихъ, и рѧдъ небески[s] знаючи, то есть бѣгъ звѣздны[s], и теж рꙋшане ѡкрꙋгу небесного ... выдали велми широко ꙋзнане наꙋкъ чернокнижских (Алекс., 1); Пред ним сѧ схилѧют и ꙋпадают ... которие носѧт ѡкрꙋгъ, и филѧри небесные страхаютсѧ перед ѡбличъем его (Пралог, 548). *Параўн.* округлость *у* 2 *знач.*

**3.** *Акруга (тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім).* Билъ намъ господару чоломъ слуга нашъ Самборъ, абыхмо ему дали тры пустовщизны въ округѣ Ясвоньскомъ (АЮЗР, I, 7, 1415); панъ Романъ Щасновичъ Верещака, самъ от себе и именемъ всихъ обывателей, шляхты, рыцерства, округу Кобрынского, повѣту и воеводства Берестейского (АВК, II, 141, 1589); в которых тых пнзях ... завел полъ петы службы людей именья своего ... в округу Радунскомъ, в повете Лидскомъ лежачомъ (АВК, XXXI, 162, 1593); Отъ тое жъ стѣнки вправо за огородомъ овощовымъ и на курганѣ погною въ томъ же округѣ заросли, болота (АВК, XIV, 607, 1597); В которой той суми пенезей ... зоставили есмо землю свою власную, вечыстую, ойчыстую, два округи (ИЮМ, XXI, 408, 1623).

**4.** *Наваколле, мясцовасць, якая прылягае да чаго-н.* ѡ престаѧ и пречистаѧ дшо. ѡ зеркало всего свѣта и всего ѡкроуга

(Пак. Хр., 10); ѡны[s] феѡдо*р* ст*ꙋ*дыта ... вси*м* свои*м* монахо*м* росказа*л* абы кожды[s] з ни*х* ѡбраз в р*ꙋ*ка*х* на хоже*н*ю з кре*с*ти, по все*м* ѡкр*ꙋ*г*ꙋ* монасты*р*ско*м* носи*л* (Бельск., 363); ца*р*ство ... *ꙋ*ве*с* ѡкр*ꙋ*гъ того свѣта ѡго*р*н*ꙋ*ло (Зб. 259, 603б).

**5.** *Паверхня, абмежаваная акружнасцю (пра зямную паверхню ва ўяўленні людзей у старажытнасці).* Апслѡве ввесь окроугъ землѣ перешли (Апакр., 105б); послале*с* мꙗчи*к* даючи в р*ꙋ*ки мое вве*с* ѡкру*г* свѣта (Бельск., 172); але*ѯ*а*н*дрови видѣ*л*се ѡкр*ꙋ*гъ свѣта ꙗко бы гу*м*но на которо*м* збо*же* молотꙗ*т* (Алекс., 42б); правовѣріѧ, благочиніѧ, и бл҃голѣпіѧ церковнаго (которое ... на весь широкій свѣта того окр*ꙋ*гъ ... выплын*ꙋ*ло) стале, статечне, и неѡ*т*мѣнне сѧ держитъ (Карп., 16б); по всей земли бовѣм[s], мови*т* ѡдинъ, вышо*л* голосъ и*х* и в[s] ко*н*цы ѡкр*ꙋ*г*ꙋ* земли слова их[s] (Варл., 294); да*х* того всего ѡкр*ꙋ*г*ꙋ* света сло*н*ца месꙗца и звездъ всꙗки*х* ꙗсно*ст*ю та*к* се ... светить (Зб. 255, 402б); ꙗко ꙗзычекъ *ꙋ* ваги, та*к* е*ст* пере*д* тобою ѡкр*ꙋг* земли (Зб. 259, 640б); изали малаꙗ частка ѡкр*ꙋ*г*ꙋ* земного есть ц҃ркв великаꙗ (Выкл., 115). *Параўн.* округлость *у* 3 *знач.*

**6.** *Мяжа, граніца чаго-н. па акружнасці.* wsia szlachta powetu Pinskoho, w okruze y hranycach w tom powete rozłożonych ... majet sia zachowat potomu, jako wsia szlachta wolnaja ... zachowywajutsia (Пін., 113, 1566); земля Виленская ... такъ естъ зменшона, же надъ вси иные не толко земли або воеводства, але и надъ поветъ, наменшій округъ ее естъ (КПД, 495, 1568); продалъ ... дворъ свой ... округомъ оточоный в муре (АВК, XX, 26, 1576).

**Округъ II** *прыназ. Вакол.* моце*н* еси г*с*и и справе*д*ливо*ст* твоѧ ѡкр*ꙋг* тебе (Пс. XVI, 90); с҃нве твои ꙗ*к* летораслъки оли*в*ное окр*ꙋг* сто*л*коу твое*г* (Там жа, 128б); седела тижба округъ его, и рекъли ему (Цяп., 46б); обложонъ камень жорновъныи округъ шии его (Там жа, 56б).

**Окружаемый** *дзеепрым. ад* окружати *ў* 1 *знач.* не са*м* еди*н* ... але з мнѡгими аг҃глкіми тмами ѡкр*ꙋ*жае*м* ... выходи*т* ѡ*т* всхо*д* с҃лнца (Каз. Кір., 122б).

**Окружати** *дзеясл.* **1.** *Акружаць, абступаць каго-, што-н., утвараючы круг.* сл*ꙋ*гамъ Бж҃імъ ѡ*д* сего час*ꙋ* притомными с*ꙋ*ть Аг҃гли Бж҃іи, и дх҃ѡве ст҃ыи окр*ꙋ*жаютъ, и стерег*ꙋ*тъ ихъ (Мак., 214); з ни*м* вси б*ꙋ*д*ꙋт* ѡкружаючы е*г* ст҃ы[s] пре*с*то*л* з ѡгро*м*ностю и славою великою (Зб. 82, 140). *Параўн.* обкружати.

**2.** *Размяшчацца вакол каго-, чаго-н.* Ча*с*ть же земли сыновъ іюдиныхъ ... восходить к дарану, и окружаеть Кариаѳаи

(Скар. IН, 30); землꙗ ... бꙋде мѣла границꙋ на всход с҃нца море солоное, которое ѡкрꙋжает сторону полудневꙋю (Біблія, 214); котораꙗ [рѣка] се там же дѣлит на чотиры головныи рѣки. имꙗ ѡдноѕ фасон таꙗ ѡкрꙋжает ꙋсю землю евиланскꙋю (Бельск., 3б); имѧ рѣки второй Геѡнъ, то есть Нілъ, таѧ ѡкрꙋжаетъ всю землю еѳіѡпскꙋю (Хран., 6).

**3.** *Ахутваць, укрываць з усіх бакоў.* вси цареве и кнꙗжата свѣцкии перед нашою ѡбличностю бꙋдꙋт се кланꙗт, през золотыѕ завоѕ, которіѕ голову ч҃лвчую приѡдѣвает и ѡкрꙋжает головꙋ (Алекс., 8б).

**4.** *Акаймоўваць.* Ритина подъ краемѕ обхожала его десѧти локтеи окружающи морѣ (Скар. ТЦ, 138б).

**Окружаючий** *дзеепрым.* **1.** *Ад* окружати *ў* 1 *знач.* Аасбай: ꙋфаючій въ мнѣ, або брат вколо ѡкрꙋжаючій (Бяр., 221).

**2.** *Які вынікае з пэўных акалічнасцей, абставін.* Ѡбстоѧніе: Ѡколичность. вколостоѧнѕе, оутисненѕе, припадокѕ ѡкрꙋжаючій щасный и нещасный (Бяр., 193).

**Окруженый, окружоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* окружити *ў* 1 *знач.* С҃тый василеѕ ... ѡбачил н҃бо ѡтворено а х҃та г҃да на престолѣ седꙗчог и ѡкрꙋжоног ангелы (Бельск., 283); Гды свѣча Б҃жаѧ запалена бываетъ и гды темностьми ѡкрꙋженый домъ ѡсвѣчаетъ, тогды мысли свои видитъ (Мак., 92—93); таа ѡпроч всходнеи части котраа [!] до Каппадокіи и Сѵріи постꙋпꙋетѕ ѡтвсюдꙋ морем ест ѡкрꙋжена (Бяр., 238).

**2.** *Ад* окружити *ў* 2 *знач.* ѡбачилсꙗ болеслав быт здражоного и неприꙗтелским воѕском ѡколо ѡкрꙋжоног (Стрыйк., 475б).

**3.** *Ад* окружити *ў* 5 *знач.* Вевнꙋтръ зась оуплꙋтана, валомъ ѡточона, мꙋромъ ѡкрꙋжена, и ланцꙋхами темностій звѧзана естъ д҃ша ѡд дꙋхѡвъ злости (Мак., 210).

**Окруженье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* окружити *ў* 1 *знач.* Вонтпитъ прето сама ѡ собѣ, маючи зданье смерти вѕ собѣ д҃ша, длѧ окрꙋженьѧ множства злостій вколо еи (Мак., 370—371); Сава, чрез Самех: Окрꙋжене, аб пьѧныи. зѕ сѵр: старецѕ, ый (Бяр., 306).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* окружити *ў* 2 *знач.* оумыслили на мѧ не остав мене, жебы коли не поднеслас голова окруженѧ их. трꙋд оустъ их прикрыеть их (Пс. XVI, 135б).

**Окружие** *наз. Акружнасць.* Приклада: Кѵріл Іерс: прировнане. прировнованѕе. Землѧ толикꙋ иматъ н҃бси прикладꙋ.

елика среда колеснаа къ всемꙋ ѡкрꙋжію (Бяр., 125); Ѡбодѕ: Крꙋг, ѡбꙋдѕ, исход, к҃е. ѡкрꙋжіе, т҃ов (Там жа, 192).

**Окружити, окружыти** *дзеясл.* **1.** *Акружыць, размясціцца вакол каго-, чаго-н.* Поглѣди на дугу небесную ... вельми красна есть во блистании своемъ, окружила небо колѣсомъ славы своеѧ (Скар. ІС, 69б); з рогатинами окружи*т* тѧ справе*д*ливо*ст* его, не боуде*ш*сѧ боѧти *с*тра*ш*ко*в* но*ч*ны*х* (Пс. XVI, 93); птаство вороны место все ѡкрꙋжили и тела ст҃ы*х* пожирали (Зб. 752, 97).

**2.** *Узяць каго-, што-н. у кальцо, не даючы магчымасці выхаду; асадзіць.* не ходи противко имъ, але ѡкрꙋжи з тылу (Біблія, 365); каза*л* чотыре*м* тисече*м* стре*л*цо*м* абы ѡкрꙋжили ѡное мѣсто (Алекс., 11); кро*л*ꙗ з по*л*ꙗками ѡ*т*все*л*ꙗ ѡкрꙋживши мо*ц* его преломили (Хр. польск., 8б).

**3.** *Абысці кругом па ўсёй прасторы чаго-н.* иже оубогіи были оусе мѣсто еста ѡкроужила. а никто ихъ принѧти не хоте*л* (Валх., 44); Смотрѣте на кораблъ, которыѕ мно*г* мора ѡкрꙋживши коли ꙋже кꙋ берегꙋ мае приѕти, а в тоѕ ча*с* его нава*л*но*ст* заскочи*т* (Бельск., 233); вѣщокъ реклъ: Филипе народи*л*се тобѣ сынъ котoриѕ буде ца*р*ствова*л* по сме*р*ти твоей, а ѡкрꙋжи*т* ве*с* свѣтъ (Алекс., 3б); спыталъ егѡ г*с*дь ѡ*т*колѣ идешъ. а онъ реклъ: ѡкрꙋжилъ есмь землю и ѡбшолъ есмь ей (Хран., 56). *Параўн.* обкружити.

**4.** *Правесці мяжу па акружнасці.* хто до *д*на той пропасти проникне*т*. хто границы ей окроужи*т*, хто конецъ означи*т* (Апакр., 171).

**5.** *Абгарадзіць, абнесці (сцяной, валам і інш.).* кгимель ... ѡкружилѕ мѧ абыхѕ не выходилѕ и обтѧжилѕ путо мое (Скар. ПЕ, 7б); ѡное мѣстце ... мꙋромъ во*д*ле свое мы*с*ли ѡкружыли (Зб. 82, 23б).

**Окружный** *прым.* **1.** *Ад* окружие. Естъ ц҃рковь ѡкрꙋжны*м* ѡбведена и ѡбварована цырклемѕ, ѡ*т* которого слова и етімонъ свой, то естъ, выводъ маетъ (Бяр., 219).

**2.** *Які акружае што-н.* море ... оу великое море ѡкрꙋжное оуходить. албо из него выходи*т* (Валх., 88б).

**Окружоный** *гл.* окруженый

**Окружыти** *гл.* окружити

**Окрутенство, окрутеньство, окруценство** *наз.* **1.** *Жорсткасць, бязлітаснасць, бесчалавечнасць, лютасць.* всѧкии поддаными его длѧ великог ѡкруте*н*ства и не*в*стави*ч*ности его не бы*л* нихто пэвэн ани бэзпечонъ не то*л*ко имѣне*и* албо ска*р*бовъ,

але и здорова своего (Рач., 295); еще теж тогды и ветхій римъ окрутенства не зналъ (Апакр., 187б); его знову штокинули для его великого шкрутенства (Хр. польск., 24б); для насъ невдячныхъ слугъ смерть поднялъ, а смрть крстную, абы ся шкрутенство грѣха выкоренило (Варл., 209); велика доброть господняя, иж так латве их шкрутенъство в тихост шдменяет (Зб. 255, 302); царство без людскости щирое шкрутенство ест (Зб. 259, 203); шкруценство ваше досегло ажь до нба (Хран., 338); то жъ было што и первѣˢ, зложили ѕвѣри шкрутенство, а люди чловеченство (Зб. 82, 55). *Параўн.* окрутность *у* 1 *знач.*

**2.** *Жорсткі, бесчалавечны ўчынак.* абы онъ водлѣ права духовного ... оного мужа еѣ отъ того повстягнулъ, ижъбы онъ таковогo окрутенства чинити ей пересталъ (АЗР, III, 2, 1545); таковое шкрутенство и замордоване сынове або кревнии тог замордованого мают до вряду шповедати (Ст. 1566 I, 85); французскую землю шт шкрутенства шного грубого народу вызволил (Атыла, 187); пана ... забили ... по риньку волочили, и голову его у пса увезавши шкрутеньство великое и надъ иными латинниками чынили (Бер. саб., 41—41б); том шкрутенства над детми чынив, иные на колъ тыкав (Царств., 78); склоннѣˢшии были завжды до звад до воˢны до шкрутенства и поседаня чужих земль ниж до наукъ вызволеных (Стрыйк., 435); ани людми ани звѣряты пануемы, маемы то собѣ за шкрутенство, приневолит ку службѣ члвка (Алекс., 32б); Надˢ Іwасомъ тежь црремъ соромотныхъ шкруценствъ оужили (Хран., 333б). *Параўн.* окрутность *у* 2 *знач.*

**Окрутне, окрутно** *прысл.* **1.** *Ад* окрутный *у* 1 *знач.* w какъ шкроутно его црская велможность была потоптана (Пак. Хр., 11); ее угрове зо всих сторон шбскочыли а з оными всими паннами шкрутне позабивали (Атыла, 213); зелепуга ... миколая деражиньского шкрутне и нелютостиве з ручницъ пострелял (КЛС, 90, 1597); помордовали есте ихъ шкрутне (Біблія, 492); зараз се на них поръшили з воды ипотамове ... шкрутне ихъ пожерли (Алекс., 27); слуги и жолнѣре ... нелюдско и шкрутне члонки ихъ штсѣкали (Варл., 202б); Люто: Страшно, сродзе, шкрутнw (Бяр., 76); был шкрутне звезаныˢ и до судѣˢ проважоныˢ (Зб. 255, 339—339б); у Вильни зъ засацки жалуючого пана Славинского ... на томъ же мѣйсцу такъ окрутне збитого, ледво што живого покиненье (АВК, XII, 488—489, 1684).

**2.** *Ад* окрутный *у* 4 *знач.* естли бы хто жида, къ заплатѣ заставы его, въ день святый припудилъ, або кгвалтъ въ дому

бы его вчинилъ: яко ростравца скарбу нашого окрутнѣ маетъ быти каранъ (АЗР, I, 25, 1388); кроль тесеоус ... много с троꙗнов ѡкрꙋтне ранил (Троя, 48б—49); тамъ жо ѡкрꙋтъне ее збили и зранили (КВС, 523, 1552); его самого поимавшы ѡкрутне зранили (Трыст., 1); голова наскрозь ножомъ пробита и уся окрутне кийми збита (АВК, XXXVI, 44, 1582); приказал алеѯандръ абы ѡбфмите ѡгон палили, бо се почало вщинат зимно велми ѡкрꙋтне а незносно (Алекс., 31); нѣкоторых воловыми жилами ѡкрꙋтне зранивши, и сажею лица их[s] почернивши, ѡт себе выгналъ (Варл., 259б); все тѣла их дирꙗвꙗчи, и перепалꙗючи срогими ѡными желѣзы ѡгнистыми, ѡкрутне их мучено (Жыц. св., 83).

**3.** *Ад* окрутный *у 7 знач.* троꙗны свое великостью напротивку им ѡкрутне сѧ противлꙗють грекове в том то оутисненью себе бронѧть (Троя, 2 1—21б); билисе ѡкрꙋтне иж мног з[s] ѡбꙋ сторон люде[s] полегло (Бельск., 84); литва ... ѡкрꙋтне битвꙋ з ними сточила (Стрыйк., 544б); ѡбадва ꙋфы неприꙗтелским се ѡбычаем потыкали, а велми ѡкрꙋтне се з собою воевали (Алекс., 73); велце сѧ гнѣвомъ запалѧлъ, и ѡкрꙋтне противко ихъ порꙋшалъ (Варл., 21).

**4.** *Ад* окрутный *у 8 знач.* матка его маріа ... почала ѡкроутне и горко плакати (Пак. Хр., 2б); менесцес ... его есть ѡкрутне вдарил и вранил (Троя, 61); ѡ а҃і то[s] годинѣ вѣтръ зо всходꙋ с҃лнца такъ ѡкрꙋтне а нагле почал вѣꙗт, иж вси наметы з во[s]ска розвѣꙗлъ и подерлъ (Алекс., 30б); Панны ѡныи такъ ѡкрутне заснули, ижъ ихъ добудити не можено поки з полаты ѡной вынесены не были (Пралог, 528б); слышавши то времѡвнꙋшъ брат левкодꙋшовъ ѡ смерти Алеѯандровои, и ѡкрꙋтне плакалъ (Алекс. 1697, 99б).

**5.** *Грозна, люта.* анектанав ... пременил се в смока: а през посередокъ сѣдꙗчих идꙋчи ѡкрꙋтне шикал (Алекс., 3б); Стрѣтилъ его левъ ѡкрꙋтне ричачи (Пралог, 488).

**6.** *Вельмі, надзвычай.* виделъ есми на томъ Щастномъ ... рану кордовую рубаную окрутне шкодливую на левой руце (АВК, XXI, 96, 1555); надехали василиска велми ѡкрꙋтне великог и невымовне смродливог (Бельск., 182); напоминалъ Ісава брата своегѡ абы се такъ тиранско не обходилъ, але ижь былъ ѡкрꙋтне закаменелого срдца, а наложилсѧ на егѡ здоровье (Хран., 59).

**Окрутней** *прысл. выш. ст.* **1.** *Ад* окрутне *ў 1 знач.* Тогды царъ гнѣвом запалены[s], над тым ѡкрꙋтнѣй ниж над всими се

срожил (Кн. Мак., 52); геретицы ... вѣрою и наꙋкою хсвою фалшиве хлюбıат, прквъ его ѡкрꙋтнеи ниж которіи иншіи преслѣдꙋют (Выкл., 21).

**2.** *Ад* окрутне *ў* 3 *знач.* грекове ... ꙋ своем мужствѣ ѡкрутнеи а твердеи к валце приступили (Троя, 21б).

**Окрутнейший, окрутнейшый** *прым. выш. ст.* **1.** *Ад* окрутный *у* 1 *знач.* Тогды идеть и возъметь з[s] собою семъ иных[s] духовъ окрутнейших себе (Цяп., 16б); horszy był tym zemlam, y okrutnijszy na nich, niżli Ontyoch Syrski (Быx., 487); горшии был тымъ землıамъ и ѡкрутнеишыи на нихъ, нижли Антиѡх (Патр. П, 88); Севирꙋ ѡны[s] мних срокги[s] евтихиıанин, на столицꙋ патриаршества антиѡхи[s]ског, ѡт цесара всажоны[s] ... был ѡкрꙋтнѣ[s]ши[s] нижли цесар (Бельск., 318б); ꙋваж чего се не важыл тот злосливы[s] цар, жебы царское годности ... не стратил, которое бовемъ ѡкрꙋтне[s]шое зна[s]ти се могло, тиранство, ıако так много крови вылит (Зб. 255, 143б); з чловекомъ над которого звѣраты кгды сıа збествит не маешъ ничого ѡкрꙋтне[s]шого (Зб. 259, 602).

**2.** *Ад* окрутный *у* 4 *знач.* которое крещение ѡгнѧ последнее есть, а тое не толко ѡкрꙋтне[s]шое, але и долже[s]шое (Унія, 16б); васъ прошу маете ли болше[s] мученичества ѡкрꙋтнѣ[s]шого ѡбернѣте ихъ на мене (Пралог, 554б).

**3.** *Ад* окрутный *у* 8 *знач.* дал емꙋ ѡкрꙋтне[s]шы[s] напой, и над которим так же се ѡнъ бѣдник дома розмышлıаючы ... перезнаменал трꙋ[ти]зни крестомъ (Зб. 82, 63б).

**Окрутний** *гл.* окрутный

**Окрутниковъ** *прым. ад* окрутникъ. за помочю мѣла ѡкрꙋтниковых мукъ богатисıа (Зб. 752, 85).

**Окрутникъ, окротникъ** *наз. Жорсткі, бязлітасны чалавек; насільнік; тыран.* шіе ѡкроутных неприѧтел тот ѡкроутник оусмирит (Пак. Хр., 23); по сороку и пıати дни[s] ѡкрꙋтника ѡного царıа сынове его забили (Біблія, 587—588); Приехавши до костантинополю ѡт вродꙋ которы[s] зовꙋт канцер ꙋмерлъ тотъ ѡкротник (Бельск., 408); Мечислав крол полски[s] выдирцею ѡкрꙋтником и срокгим тираном над подаными был (Стрыйк., 598); Головнымъ естъ окрꙋтникъ, противникомъ нашимъ (Лям., 23); Нерона вѣрꙋтнаго окрꙋтника велбилъ (Паўуст., 2б); ꙋніаты ... цркви едино[s] ст: кафолическо[s] Апл̃ъско[s] хв̃о[ss]бж̃о[s] противниками злосниками и тиранами стали же то всѣхъ ѡкрꙋтников и незбожниковъ злости и тиранства выполнили (Дыяр., 171); гсдь бг̃ъ на ѡного ѡкрꙋтника лва це-

росту набывшы ꙋв оливу помочивши пекꙋтъ (Царств., 79б); прикажи сыно*м* изра^s^левы*м*, абы принесли до тебе ѡливы зъ ѡливного дерева (Біблія, 143); длꙗ великого прагненꙗ ... нѣкотории тежъ зъ его рицеро*в* лизали травꙋ, дрꙋгии пили ѡливꙋ (Алекс., 27); корчик^s^ оливы дꙋховного олѣйкꙋ знакъ естъ (Каліст, II, 176б); ѡливы и вина налили на раны наши (Зб. 259, 310б); Тому жъ Богдану вернули за перегонъ, за оливу што онъ тратилъ до зекгара своими грошми, золот. чтыри (ИЮМ, I, 47, 1679). // *перан.* оливꙋ ласки Бж҃еи мѣти годными сѧ ставаютъ (Мак., 31).

**3.** *Ялей; міра.* Былъ бо обычай ... оныхъ помазовати елеомъ или маслом^s^, се естъ, оливою, которих^s^ на цр*ст*во, або на Іереиство брано (Будны, 120); мазали оливою мъногих немоцныхъ, и оздоровлѧли (Цяп., 50б); г*с*дь бг҃ъ не тылко дае*т* пшеницꙋ и вино ... але и ѡливꙋ або krzyżmo (Выкл., 107). ◊ О л и в а   п о с в я щ е н н а я — *міра.* Сіѧ тайна естъ в которой презъ помащеніе ѡливою посвѧщенною, ѡ*т*пꙋщеніе грѣхѡвъ хоромꙋ даетсѧ (Сакр., 14—14б).

**4.** *Пахучы алей.* коль красны милости тво*и* сестро моѧ невѣсто коль добры милованьѧ твоѧ нижли вино а запахъ ѡливъ твоихъ нижли вси зелиѧ (Зб. 262, 84).

**Оливка** *наз. Аліва, масліна, плод аліўкавага дрэва.* Масличіе: Ѡливки: Исхо*д*, к҃г. и деревѧ (Бяр., 77); купили ... оливокъ и лимонъ пару асм. к҃а (ИЮМ, I, 57, 1679); на тотъ же банкетъ кореня ... оливокъ квартъ две, зол. три и осм. десять (ИЮМ, V, 135—136, 1688); Приправы до тыхъ рыбъ, две лимони, дали осм. осмнадцать, полкварты оливокъ, осмак. двадцать (ИЮМ, IX, 102, 1692); з росказання пана войта kupili ... кварта оливекъ (ИЮМ, XVII, 38, 1710).

**Оливникъ** *наз. Тое, што і* оливница. хоче*ш* собѣ накупи*т* ви*н*ни*ц* и ѡливнико*в* и бы*д*ла и слугъ (Зб. 752, 358б).

**Оливница** *наз. Сад, гай, дзе растуць алівы.* ви*н*ницы и ѡливницы и виноградъ попали*л* ѡгонь (Біблія, 131б); далъ есмъ ва*м* ... ви*н*ницы и ѡливницы которих есте не садили (Там жа, 255); возми тежь собѣ рѣчіи вонныхъ ... оливы з^s^ оливницы мѣрꙋ гинъ (Хран., 108). *Параўн.* оливникъ.

**Оливный** *прым.* **1.** *Ад* олива *ў* 1 *знач.* вделалъ теже царь Саломонъ в молитовници два херувимы з^s^ древа оливнаго (Скар. ТЦ, 135); с҃нве твои ꙗ*к* летораслъки оли*в*ное окрꙋ*г* сто*л*коу твое*г* (Пс. XVI, 128б); прикажи сыно*м* изра^s^левы*м* абы принесли до тебе ѡливы зъ ѡливного дерева (Біблія, 143); не-

сли ѡле^s з^s ѡливного дерева што начи*ст*ши^s (Бельск., 51); были та*м* дерева высокии на сто стопъ, а были подобны бобковому и ѡливному деревꙋ (Алекс., 38); Елей: олива, олѣекъ, олѣй: або олѣй з^s овоцꙋ оливного. або масло (Бяр., 41); ис*ꙋс* ... вышолъ з ꙋчениками своими до ѡгородꙋ ѡливъно*г* (Зб. 259, 632—632б); носꙗчи розчки ѡливныи и палмовыи спѣвали тыи*ж* слова (Выкл., 145). // *перан.* розобраного елеомъ помазовати тѣло пере*д* крещенiе*м*, ѡ*т*рослею его быти показꙋетъ доброго дерева оливного І҃с Х҃ва (Каліст, II, 285).

**2.** *Ад* олива *ў* 2 *знач.* Чванец^s: Банка, ѡливнаа сꙋдина, фаска, флѧша (Бяр., 202); Ка*н*дило: лѧ*м*па каганец оливны*и* (Там жа, 285).

**Оливовый** *прым.* **1.** *Ад* олива *ў* 1 *знач.* Будеши ли збирати ꙗгоды з^s древъ оливовыхъ да не возвратишисѧ про то что остало на древе (Скар. ДЗ, 216б).

**2.** *Ад* олива *ў* 4 *знач.* къ запахꙋ ѡливъ твои*х* добры*х* ѡливовы ли тое имѧ твое протожь молодици полюбили тебе (Зб. 262, 83).

**Оливъ** *наз.* ◊ Оливъ древяный — *аліўкавы тлушч.* спрѧгши ꙗдра ѡны во ѡливѣ древѧно*м*. а по се*м* зварити и*х* во медꙋ ѡно*м* на ѡгни тихо*м* (Арыст., 213).

**Олижъ** *гл.* алижъ

**Олижь** *гл.* алижъ

**Олимпийский** *прым. Алімпійскі, які мае адносіны да алімпійскіх гульняў.* Кролевскій прето с҃нъ ѡ*т*ишо*л* до своего палацꙋ, ꙗкъ нѣѧкій з^s ѡлимпійского плѧцꙋ звитѧ*ж*ца, переконавши противников^s (Варл., 254б).

**Олифа** *наз. Пакост, спецыяльна апрацаваны алей або тлушч, прызначаны для прыгатавання фарбаў, лакаў і інш.* Олифы полфунта на две господы (ИЮМ, VII, 199, 1690).

**Олкаронъ** *гл.* алкоранъ

**Олмарея** *гл.* армария

**Оловеникъ, оловяникъ** *наз. Алавяная ці зробленая з іншага металу пасудзіна накшталт кубка або шклянкі.* Оставляю твоей милости покровець аналойный, два оловеники (АЗР, I, 137, 1494); взяли съ того двора две скрини а три мисы ценовыхъ, а ѡловеникъ (КСД, 590, 1508); што есми мелъ статъку домового — ковровъ, мисъ, ѡловяниковъ, котловъ, лихтаревъ, полотенъ, скатерте^s, то ми все побрано (Там жа, 600, 1509); Чудину Москвитину далъ цину своего влостного тридцетеро поголовъя оловениковъ, мисъ и талерокъ (АВК, XVII, 243, 1540); онъ жоне своей еще оловеникъ невелики а талерку цыновую отка-

зал (ИЮМ, XXXII, 128, 1578); Овдотья ... с клети ее оловеников двух цыновыхъ, мис цыновых двух и полотна не брала (АВК, XXXIX, 540, 1579); лаханка меденая, оловеникъ меденый, цынованый (ИЮМ, XXI, 400, 1598).

**Оловеный** *гл.* оловяный

**Оловина** *наз. Хмельны напітак з жыта, ячменю; брага, піва.* Сікера, е*в*, хмѣлныи напито*к*, и*л* пьѧнство, л*ѹк*, а̃ з*р* оловина (Бяр., 309).

**Олово** *наз.* **1.** *Свінец.* продавати мають ... желѣзо, олово, мѣдь, цынъ, мосяжъ и иншые рѣчи таковскіе центнаромъ (АЗР, I, 180, 1498); поднебене и дахи з дерева кедрового а по верхѹ ѡлово*м* накрита (Валх., 71); купци чужіи подъ тою мѣрою будуть куповати желѣзо, олово, мѣдь, цину, мосяжъ и иншіи такіи жъ рѣчи центнаремъ (АЗР, II, 77, 1510); за новое олово до боулъ прикладаное, што дн҃ь золото ѡ*т* людей заведеныхъ лоупѧтъ (Апакр., 171б—172); мѣдь и желѣзо и ѡлово и цына и все што може пере^s^ти през поломе*н* ѡгне*м* сѧ ѡчисти*т* (Біблія, 212); олова фунтовъ шестьдесятъ коштовало золотыхъ пять (АСД, I, 251, 1616); агфагелу роспущоное ѡлово на голову лити росказа*л* (Зб. 82, 342); на кули олова купили (ИЮМ, VIII, 91, 1691). *Параўн.* оловъ *у* 1 *знач.*

**2.** *Волава.* выво*д* п[а]на Глебовичо*в* на помову о*т* того не*м*ца з стороны позволе*н*(ь)я вывоже*н*(ь)я за границу серебра, олова и восков (ПГ, III, 9, 1507); бѣлость или подобе*н* к вапноу, и ко ѡловоу, и ко сѧдрѹ зѹбовѹ сие знаменіе слиѧніе стоуденого (Арыст., 180); коли ѡна в са*н*далецъ вступила, заразъ ѡ*н* со*н*далецъ ѧко ѡлово потону*л* з нею (Пралог, 542). ◊◊Б е л о е   о л о в о — *волава.* Касcітеръ: Цина, бѣлое олово (Бяр., 286). *Параўн.* оловъ *у* 2 *знач.*

**3.** *зб. Свінцовыя кулі.* Собачънику Михалку купили пороху чвертку, олова чвертку (ИЮМ, XI, 35, 1697).

**Оловъ** *наз.* **1.** *Тое, што і* олово *ў* 1 *знач.* погрѧзоша ѧко оловъ во водахъ пресил^s^ных^ss^(Скар. КВ, 29б); золотори которые золото срэбро ѳал*ш*уують и межи того мешаю*т* медь ци*н* або ѡло*в* ... мають быти ѡ*г*немъ караны (Ст. 1566, 12); салетру, оловъ и сѣрки колько тисечи фунтовъ на козаки складати (АСД, I, 179, 1590); люди мѣста оного на поле ходити не маютъ, куль и олову другимъ додавати не будутъ (АЮЗР, II, 32, 1605); Желѣзо, Олов^s^, Золото, албо Сребро, в^s^ огонь вкиненое тратѧть твердость натѹры своеи (Мак., 36); неха^s^ же сѧ тѹ*т* тые встыдаю*т*, которие грехи, ѧко ѡловъ ѧки^s^ в тое золото всажаю*т* (Зб. 259, 438); оловю и паперу на ладунки дали

(ИЮМ, II, 107, 1684); ıакъ оловъ есть подлѣйшій надъ злото, такъ станъ кождого королѧ есть подлѣйшій надъ станъ капла*н*скій (Зб. вып., 52).

**2.** *Тое, што і* олово *ў* 2 *знач.* Злато Сребро Медь Железо Ѡловъ и Свинецъ и все еже может[s] сѧ препалити огнемъ очиститсѧ (Скар. ЛК, 64б).

**Оловый** *прым. Тое, што і* оловяный. пото*м* шию кулıами ѡловыми били (Зб. 752, 102б).

**Оловяникъ** *гл.* оловеникъ

**Оловяный, оловеный** *прым. Зроблены з волава або свінцу.* з боулавою ѡловѧною ходи*т* (Валх., 73б); словѣса мое ... написаны были на книгах[s] и спицею железною на дсцѣ оловѧнои (Скар. КІ, 25); слова мои ... кистью желѣзною и ѡловѧною навѣки бы оу скалѣ вытесаны (Зб. 262, 20); в той скрыни ... занкгель оловеный, наволочка старая (АВК, XXI, 194, 1556); вкинулъ в ѡную ıаскиню табли*ч*ку ѡловıаную (Зб. 81, 44б); изали мови*т* не встыдаешъсѧ з бȣ*р*штыновы*х* похо*в* ѡловıаны[s] мѣ*ч* вынıати (Зб. 259, 609); каза*л* а*р*темиıа прȣтами ѡловıаными бити (Зб. 752, 553б); розгневаны[s] климе*н*тъ бить его ѡловıаными кулıами казалъ (Пралог, 608—608б); его бе*з* ȣжале*н*ѧ би*т* ѡловıаними басалики ... каза*л* (Зб. 82, 385). *Параўн.* оловый.

**Оломеный** *дзеепрым. Абламаны.* оказовал кончер ... у которог паски простого ременю дубленого и головка оломена (АВК, XXXIX, 500, 1579).

**Олснути** *дзеясл. Аслепнуць.* ѡ*д*крый ѡчи мои: пройзритъ ѡ*д* того часȣ южъ не ѡл[s]снетъ (Мак., 208); кгды хто на ѡчи телесные ѡ*л*сне*т*, ıакъ се много лекаровъ ради*т* (Зб. 259, 61б).

**Олстерко** *гл.* ольстерко

**Олстерникъ** *наз. Рамеснік, які вырабляў футляры.* вси олстерники при цеху римарскомъ, ведлугъ привилею его корол. Млсти и Давидъ ладовничникъ маютъ зоставать (ИЮМ, IX, 210—211, 1635).

**Олстро** *гл.* ольстро

**Олтаревый** *прым. ад* алтарь. спра*в*те празни*к* оу гȣстости зобра*н*ѧ а*ж* до оугло*в* ѡлтаревы*х* (Пс. XVI, 118); набравши крови и ѡмочивши палецъ дотъкнȣвсıа рого*в* ѡ*л*таревыхъ (Біблія, 162); ѡбходѣ жъ сто з гȣстым маем ажъ до роговъ ѡлтаревы*х* (Пс. XVII, 131); набравши крови и ѡмочивши палецъ до*т*кнȣвсѧ роговъ олтаревыхъ вколъ (Хран., 117—117б).

**Олтариста** *гл.* альтариста

**Олтаристъ** *наз. Тое, што і* альтариста. Съ тыхъ корчомныхъ пенязей платныхъ на годъ олтаристу 2 копѣ гроши дають (АСД, VII, 15, 1520); о выправу почтовъ на войну зъ имѣній костелныхъ пановъ духовныхъ, бискуповъ и конониковъ, плебановъ, олтаристовъ, митрополита, владыкъ (АЗР, III, 125, 1563).

**Олтарка** *наз., памянш. ад* алтарь. для пановъ и инныхъ гостей, которые уберали олтарку, куп. меду (ИЮМ, XXI, 18, 1711).

**Олтарный** *прым. ад* алтарь. ꙗкимъ ... посадилъ ее на третем стꙋпени олтарнем (Чэцця, 17б); паникадил амбонных, ѡлтарных и притворных шест тисꙗче[s] (Бельск., 327б); то Авгꙋстин ст выкладает ѡ ѡфѣрѣ ст҃ои ѡлтарной нового тестаментꙋ (Выкл., 124б).

**Олтаръ** *гл.* алтарь

**Олтарь** *гл.* алтарь

**Олтористинъ** *прым. ад* альтариста. слуги панень Крупскихъ поставили шапкꙋ ... на корчьмита ѡлтористина на Микиту (КСД, 67, 1510).

**Олторокъ** *наз. Тое, што і* второкъ. ѡнъ ... ждал санъчеꙗ ѡтъ ѡлъторка аж до пꙗтъницы (КВЗС, 14б, 1537); с понеделъка на олторокъ коней пятеро ему погинуло с поля (АВК, XXXVI, 163, 1582); тому шесть недел ув олторокъ минуло (АВК, XXXI, 150, 1593); мсца септеврѧ з днѧ со ѡлторка на средꙋ (Барк., 166).

**Олучицкий** *прым. Алучыцкі.* его мл кн҃зь богданъ Соломерецкий староста крычевски[s] и ѡлучицкий (Барк., 156).

**Олховый** *гл.* ольховый

**Олшына** *наз. Тое, што і* ольсовина. граница ... отъ того копца знову у копец коло олшыны (ИЮМ, XXII, 451, 1621).

**Олыжъ** *зл. Тое, што і* алижъ I *у* 2 *знач.* не маютъ духовъ рыбныхъ ловити, олыжъ на замокъ нашъ ведомо дати (АВК, XXIV, 30, 1524).

**Ольсовина, ольшовина** *наз. Нізкае багністае месца, зарослае хмызняком.* одъ тое нивы тымъ же водотекомъ, ольшовиною, просто у Язвище у мохъ (ИЮМ, XXIII, 489, 1634); пета першая тое границы одъ вольхи ольсовиною да в речку Тиновицу (ИЮМ, XXV, 342, 1719). *Параўн.* олшына.

**Ольстерко, олстерко** *наз., памянш. ад* ольстро *ў* 1 *знач.* фляшки двѣ малые пласкіе зъ ольстеркомъ (АВК, XIV, 357, 1590); ольстерко малое, у немъ фляшекъ чотыры (АВК, XX, 136, 1598); ольстерко одно, коренная шкатулъка (ИЮМ, XXVI, 125, 1641); налили у олстерко кварту перегону (ИЮМ, I, 59, 1679); водки на шмароване коней полкварты, челяди

полкварты, увъ олстерку кварту (ИЮМ, IX, 174, 1692); горелки до господы налили у олстерку, кварту оковитой и кварту простой (ИЮМ, XI, 185, 1697).

**Ольстро, вольстро, олстро** *наз.* **1.** *Футляр.* полоникъ железный, ольстро свечное а гребла (АВК, XXII, 74, 1555); ольстро, въ немъ фляшъ шкляныхъ чотыри (АВК, VIII, 166, 1593); у третей скрыни ... ольстро съ шестьма фляшами шъкляными, ольстро, в которомъ ножовъ гецованыхъ семъ (АВК, XX, 136, 1598); побрали ... ольстро бальверское зо всими потребами (Там жа, 189, 1602); олстро великое, в нимъ фляшъ дванадцать (АСД, I, 251, 1616); у карчме Полуйковичахъ узяли до вольстра горелки пану бурмистру кварты осемъ (ИЮМ, VII, 127, 1690); купили четыры ремени до увязованя олстровъ (ИЮМ, XI, 65, 1697); за направу олъстра п. Яна ... слесару заплатили (ИЮМ, XIII, 30, 1699).

**2.** *Кабура.* ручъница з ольстромъ и с пороховницою коштовала семъ таляров (АВК, XXXVI, 197, 1582); ольстра до пулъгаковъ две (АВК, XX, 245, 1615); карабиновъ Виленское роботы зъ олстрами десеть (АСД, I, 150, 1616); пиштолеты два з ольстрами (ИЮМ, XXVI, 126, 1641); за направу олстровъ и лядевничокъ золотыхъ два (ИЮМ, II, 21, 1683); до тыхъ пистолетовъ купили олстры чирвоные (ИЮМ, VIII, 94, 1691); шаблю и олстры, што пры нимъ были, до скарбу прыняли (ИЮМ, XII, 66, 1698); купили пистолеты новые пару з олстрами и покровцами (ИЮМ, XIII, 45, 1699).

**Ольха** *наз. Вольха.* положили границу ... отъ Шарипинского озерка въ ольху по конецъ мшары (АВК, XIII, 11, 1508); шостакъ повелъ ... по хвоѧмъ по ѡльхамъ по березамъ (КВЗС, 83, 1538); на дрова дерево посполитое, якъ дубъ, березу, грабину, лещину, ольху ... они брати маютъ (РПП, 250, 1545); виделъ есми у гаи пана Богушеве дерева ясеню и ольхъ трыдцать ново вырубано (АВК, XXI, 150, 1556); виделъ ... знаки на розъномъ дереве, на соснах, на роях [!] и на ольхах (АВК, XXXVI, 283, 1582); копецъ старый, а на немъ ольха старая отъ бури зломлена (АВК, VI, 145, 1586); отъ того копца у поточыну, ув олсе рубежы, з олхи у осину рубежы (ИЮМ, XXII, 451, 1627); отъ тое елъки молодое ув ольху, в которой рубежи (ИЮМ, XXIII, 481, 1630); знаки есьмо поклали ... отъ великого дуба до вербы, а отъ вербы до ольхи (АЗР, V, 16, 1633). *Параўн.* вольха.

**Ольховый, олховый** *прым. Альховы.* туть ся почали черезъ боръ грани ... тымъ доломъ мостищомъ ув ольховый багонъ, отъ ольхового багну у Кропивку (АСД, I, 54, 1546); сеножать ...

лежить межи реки рꙋкли и межи гаю ѡльховогo (КВС, 494, 1552); виделъ есми дерева посполитого, яко ольховогo, осинового и дубиного, также порубаного (АВК, XXI, 4, 1555); пневъ две копы зличылъ розного дерева ольховогo и елиного (АВК, XXVI, 45, 1585); гай ольховый подъ дворомъ (АВК, XIV, 344, 1586); гай его посечоный надъ ручаемъ Юдполемъ, дерева брозового и ольховогo, на голобъли годного, пневья сто (АВК, XXVI, 487, 1586); зличоно пнев копъ дванадцать, годного на жердье озеродовые олховогo и березового (АВК, XXXI, 139, 1593); казавшы ему ... ключыщо одно дерева олховогo вложыть ... до двора отвести велелъ (АВК, I, 260, 1613); третий копецъ на рогу дорогъ крижовыхъ около кола олховогo (ИЮМ, XXII, 454, 1627).

**Ольшовина** *гл.* ольсовина

**Ольщение** *наз. Бляск.* ꙗкоже и планеты, но паче знаменіѧ ѡ*т* ни*х* без ольщеніѧ бываю*т* в мире (Неба, 63б).

**Олюстраторъ** *наз. Тое, што і* иллюстраторъ. для ихъ милостей пп. Олюстраторовъ ... купили мяса (ИЮМ, XVIII, 110, 1710).

**Омавяти** *дзеясл. Тое, што і* обмовяти *ў 2 знач.* по обѣднѣ торговати маютъ на звыкломъ мѣстцу ... а не на предмѣстью, яко у постановенью ревизорскомъ омавяетъ (АВК, III, 11, 1582).

**Омазание** *наз. Мазанне, памазванне.* не ꙗвилсѧ блескъ прокажениѧ на новомъ омазании (Скар. КЛ, 29б).

**Омакати** *дзеясл. Абмочваць.* Іѡасафъ великꙋю мо*ц* сле*з* выли*л*, которые ꙗкъ зˢ ѡбфитого жродла вытѣкаючи всего его и зе*м*лю гдѣ сѣдѣ*л* ѡмакали (Варл., 349б).

**Омаль** *прысл. Амаль, ледзь.* презˢ той небарзо долгій часъ такъ ѡскꙋдѣлъ, же ѡмаль где его видетъ барзо (Бяр., прадм.).

**Омаменье** *наз. Ачмурэнне.* длѧ забеже*н*ѧ омаме*н*ю людій прѡстыхъ вкоротцѣ оучиню (Апакр., 59); такъ беззаконствуючи презъ весь день никчемной философіи, упадаете въ долъ омаменя (Пыт., 107); росказалъ емꙋ взѧти постѣль свою, абы сѧ не здало имъ же сѧ тое толко зˢ привиденѧ и омаменѧ ꙗкого стало (Каліст, II, 37).

**Омана** *наз. Ашуканства.* Призрачіе — привиденье, кꙋкглѧрство, ѡмана (Зіз., 57); то все омана (Каз. Кір., 34б); панъ воевода и иншіе вшодши зъ нимъ до Сѣверы, почали оманою устрашивать сѣверянъ королевскимъ именемъ (АЗР, IV, 276, 1608); черезъ то королевскимъ великимъ посломъ ... омана

сталася (АЗР, V, 37, 1637); Прелщеніе: Перелещѣ*н*е, здражѣнье, ѡмана (Бяр., 121).

**Оманение** *гл.* омаmake

**Оманеный** *дзеепрым. ад* оманути. отъ васъ такъ оманеный въ щирости своей зосталъ (АЗР, IV, 297, 1608); тым^s подобенство*м* люди ѡманени розꙋмѣли сѧ быти в цр҃кви правдивой (Выкл., 80).

**Оманенье, оманение** *наз. Дзеянне па дзеясл.* оманути. стережѣтесѧ, абы ва*с* нѣкто не ѡшꙋка*л* філософіею и про*ж*ны*м* ѡманеніе*м* ведле оуставы лю*д*скои (Каз. Кір., 44б); не розꙋмѣли книжникѡве же сѧ то з^s привиде*н*ѧ, або з^s фалшивого омане*н*ѧ дѣетъ (Каліст, I, 57б).

**Оманити** *дзеясл. Тое, што і* оманути. шата*н* наши вл*д*ки оманивъ (Апакр., 199).

**Омановати** *гл.* оманывати

**Оманути** *дзеясл. Ашукаць.* не оманꙋ соурьскомоу кн҃зю (Чэцця, 103б); на замки и на людей королевского величества наступати и оманути усилуется (АЗР, IV, 445—446, 1625). *Параўн.* оманити.

**Оманщикъ** *наз. Ашуканец.* ѡко зеленое велми се е*ст* неч*с*тивыи и ѡманщикъ (Арыст., 198).

**Оманывати, омановати** *дзеясл. Ашукваць.* дабы не бы*л* ра*д* говорити ѡ безлепици ... ѡманываѧ лю*ди* (Арыст., 159); учали оманывать и страшить московскихъ севруковъ королевскимъ именемъ (АЗР, IV, 276, 1608); Прелщаю: ѡшꙋкꙋю, звожꙋ, подхожꙋю, ѡманюю (Бяр., 121).

**Омастити** *дзеясл. Памазаць алеем.* Древа оливные имети будете во всехъ пределехъ вашихъ и не омастите олеемъ понеже вытечеть и сотлееть (Скар. ДЗ, 53).

**Омацати** *дзеясл. Абмацаць.* Хто бы ихъ ѡмацати, ѡ*д*дѣлити и вырвати хотѣлъ з^s власного огнѧ (Мак., 92).

**Омацовати** *дзеясл. Абмацваць.* Ѡщꙋщàю, ѐваю: Почꙋваю, постерѣгаю, ѡмацꙋю (Бяр., 201).

**Омбаръ** *гл.* амбаръ I

**Омдлевати** *дзеясл. Тое, што і* омлевати. невесты стали по*д*ле кре*с*та, не седели, ани ѡ*м*длеваючы на зе*м*лю падали (Зб. 255, 291); тѧжкие настꙋпили роботы, ѡ*д* которы*х* прави ѡмъдлевали (Зб. 259, 465); па*д*ши на землю ѡ*м*длевала (Пралог, 640).

**Омдленье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* омдлети. Малодꙋшествіе, или малодꙋшіе: ... оутрапеный оумысл^s, мдлость, ѡбꙋмрѣнье, в҇чи. ѡмдлѣнье (Бяр., 76—77).

**Омдлети** *дзеясл. Тое, што і* омлети. Малодꙋшествоваꙋше: Ѡмдлѣвше (Бяр., 77); в тым мучению панеика троха ѡмдлела и воды просила (Зб. 81, 68).

**Омедлети** *дзеясл. Стаць павольным.* іереи велми ѡмедлеют дх҃овніи и свѣтскіи (Сівіла, 8).

**Омекга** *наз.* ◊ А л ф а  и  о м е к г а *гл.* алфа

**Омеленникъ** *наз. Кусты драбналесся.* привели ... къ погребищомъ, а от того поля за омеленникъ къ избищам къ шести нивкам (Пін., 30, 1517).

**Омелия** *гл.* омилия

**Омененый** *дзеепрым. Абменены.* по тымъ всимъ омененымъ врочищамъ естъ кгрунтъ пана воеводичовъ (АСД, I, 107, 1546).

**Омерженье** *гл.* омерзенье

**Омерзати** *гл.* омерзяти

**Омерзение** *гл.* омерзенье

**Омерзено** *прысл. Агідна.* тыж ... гидко и ѡмерзено положилъ еси нас посредине ꙗзыков (Зб. 262, 112б).

**Омерзеный** *дзеепрым. ад* омерзити. ѡмерзеныи и ѡгидованыи моуж піющіи ꙗко водꙋ кривдꙋ (Зб. 262, 18б).

**Омерзенье, омерженье, омерзение** *наз. Агіда.* ѡмерзенье гдне криведныи исъ прѧмыми (Зб. 262, 94б); на светыѕ храмъ и ѡмерзение и ѡпꙋстение (Унія, 37); болшое ѡмерзенье было котором ю былъ ѡмерзилъ (Біблія, 378); через тое недбалство ꙗкобы ѡмерзеніе нѣѧкое речей дх҃овныхъ маеть чл҃къ (Навука, 53—54); заправды зненавиженѧ и ѡмерженѕѧ годенъ естѕ [!] (Варл., 109); здрадливе чинил перед ѡбличностю его ажъ до ѡмерзенꙗ (Пс. XVII, 4б); ѡмерзилъ ю собѣ аммонъ ѡмерзеньемъ велми великимъ (Хран., 260б).

**Омерзети** *дзеясл. Стаць агідным.* ѡпѧть омерзела ми всѧ пилность моѧ (Скар. ЕК, 5б); корыст многоую направдꙋж возненавидел есми и омерзела ми (Пс. XVI, 124б). *Параўн.* омерзти.

**Омерзити** *дзеясл. Выклікаць агіду, зрабіць агідным.* ѡмерзили мѧ вси люди (Зб. 262, 20); ѡмерзилъ ю собѣ аммонъ ѡмерзенемъ велми великим (Біблія, 378); цнѡты фарисеовы ꙗкъ пышныи и хлюбливыи омерзивши ѡткинꙋлѕ (Каліст, I, 7б); дочасные речи собѣ ѡмерзившы, до надѣи ѡнои ... оудатисѧ хочꙋ (Варл., 24).

**Омерзитися** *дзеясл., зв. ад* омерзити. ꙗкъ Ниломъ гадомъ загꙋщонымъ ѡмерзитъсѧ, оутечетъ (Лям., 23).

**Омерзлый** *прым. Гадкі, агідны, абрыдлы.* бꙋдет мѣл чл҃вкъ двѣ женѣ, ѡдн*ꙋ* милую, а дрꙋгую ѡмерзлꙋю (Біблія, 224); ѡ*н* сме*р*ть нахвалебнѣйшую лѣпшей ни*ж* животъ ѡме*р*злыꙅ ѡбираючи доброво*л*не ꙋпережа*л* на сме*р*ть (Кн. Мак., 49б—50).

**Омерзти** *дзеясл. Тое, што і* омерзети. коли*ж* оуже ва*м* ѡмерзлъ есми вы сами оувидите мѧ (Алекс. XV, 1б); емꙋ ри*х*ло ѡме*р*зла ѡ*т*цовскаꙗ столица кие*в*скаꙗ (Стрыйк., 479); вси*м* люде*м* бы*л* ба*р*зо ѡме*р*злъ, же нань и гледѣ*т* не могли (Хр. польск., 2); слово справедливое омерзло имъ (Каліст, I, 145б); омерзꙅ собѣ телесное товаришство (Мак., 299).

**Омерзяный** *дзеепрым. ад* омерзяти. шесть си*х* ненавиди*т* бг҃ъ и семеро ѡмерзѧно воли его (Зб. 262, 95б).

**Омерзяти, омерзати** *дзеясл. Выклікаць агіду, рабіць агідным.* наказаньѧ вседержителевого не ѡмерꙅѧи (Зб. 262, 14); ненависть на*д* всими, занеже ѡмерзаеть приложенію дѣло еи ѡкинетсѧ (Арыст., 210).

**Омериваный** *дзеепрым. Выдзелены.* види адонаю и смотри комꙋ оудѣла*л* еси та*к* ѣдѧ*т* ли жены пл*ѡд* свои дѣти ѡмѣриваныи (Зб. 262, 111б).

**Омеркнути** *дзеясл. Тое, што і* обмеркнути. онъ же не имать гнезда своего, но и склонитсѧ где же когда омеркнеть его (Скар. IC, 59).

**Омертвети** *дзеясл. Памярцвець.* ѡни же ѡ*т* страха ѡмертвѣвше, и гл҃ахꙋ (Чэцця, 77).

**Омерти** *дзеясл. Тое, што і* обмерти *ў 2 знач.* не припоминаеть абы Хс҃ омерь (Будны, 129).

**Ометовати** *дзеясл. Лавіць.* мꙋдрыꙅ лека*р* ꙗщꙋ*р*кꙋ ѡметꙋе*т* хо*т* злꙋю, кгды ... хоче*т* длꙗ лека*р*ства робити (Зб. 259, 102б).

**Омешкале** *прысл. Запознена.* Дай една*к* ст҃ый гд҃и хоть омешкале и лѣнивымъ обачитисѧ (Каліст, II, 44б).

**Омешкание** *гл.* омешканье

**Омешканый** *дзеепрым. ад* омешкати. возрѣвъ есми знаменитую службу намъ, никгды не омѣшканую, вѣрного слуги нашого ... дали есмо ему село Новое (РПП, 327, 1392); видѣвши есмо службу вѣрную а николи не омѣшканую князя Михаила ... дали есмо князю Михаилу Костянтиновичу тые имѣнья (АЮЗР, I, 20, 1452); што было опущоно а любо омѣшкано, а то бы было на томъ соймѣ оправлено (АЗР, I, 118, 1492); за его къ намъ вѣрную и николи не омешканую службу ... потвержаемъ симъ нашимъ листомъ (АВК, XIII, 10, 1508); абы з добра их так выходячих службы наши не были

омешканы (Ст. 1529, 21); абы рачилъ ... на ихъ веръные, повольные а николи не омешъканые послуги упаметать (КПД, 36, 1538); отъ кождое потребы омешканое по пети копъ отъ коня (Там жа, 353, 1565); з ымене^s *их* по*д* ты*м* часомъ в небы*т*ности и*х* самихъ служъбы нашы зе*м*ские не были ѡме*ш*каны (Ст. 1566, 31); таковы^s повиненъ будетъ стороне поводово^s за кожды^s ѡмешканы^s рокъ шест^s рȣблевъ гроше^s заплатити (Ст. 1588, 351); повиненъ будет за кожды день омешканый зиме по одному грошу ... заплатити (АВК, XXXII, 252, 1596).

**Омешканье, омешкание** *наз. Дзеянне па дзеясл.* омешкати. Коли бы ѡпеку*н* такъ прирожоны*и* ꙗко ȣставлены*м* ѡмешка*н*емъ свои*м* за непослуше*н*ство што ȣпусти*л* дете*и* в молоды*х* лете*х* (Ст. 1529—Ф, 51); речъ наша господаръская и земъская омешъканья не примовала (КПД, 62, 1540); никоторого сплошенства и омѣшканья у отданью податку уфаленого не чинили (АВК, VIII, 255, 1555); возны^s ... бе*з* жа*д*ного ѡмешка*н*ꙗ тое все до кни*г* врѧдовы*х* маеть сознавати (Ст. 1566, 43б—44); посланникомъ государя вашого омѣшканія таковые ся деяли (АЗР, III, 175, 1574); которую роботу его милости маю кромъ вшелякого омѣшканья готовати и почати робити (АВК, VI, 44, 1589); абы ꙗкое ѡме*ш*канье справомъ и потребомъ речы посполитое не сталосе (КЛС, 28, 1596); болесла*в* ... возва*л* теды бе*з* ѡмешка*н*ꙗ пано*в* сенаторо*в* по*л*ски*х* на се^sмъ (Стрыйк., 473б); бе*з* жа*д*ного ѡмешкан^sѧ до тогосмосѧ начи*н*ѧ кинȣли (Варл., 283); тые ѡсобы которихъ тамъ потреба прибыли безъ ѡмешканꙗ (Зб. 259, 547б).

**Омешкательный** *прым. Беззатрымны.* видевши есмо службу намъ верную а николи не омешкател[ь]ную, нашого землянина ... дали есмо пану Олизару Шиловичу у Луцкомъ повете Серники (КЗ, 99, 1450).

**Омешкати** *дзеясл. Затрымацца, замарудзіць; спазніцца.* давности земское не омешкалъ (Ст. 1529, 8); хто рано на роботу не выйдеть за огурствомъ, таковый другого дня только часу, якъ омешкалъ, заробити маеть (КПД, 555, 1557); то*л*ко бы давности земъское вышэ*д*шы з опеки не ѡмешкали (Ст. 1566, 76); онъ за везеньемъ перьшыхъ рочъковъ омешкалъ (АВК, XXXVI, 211, 1582); на се^sмъ велики^s вча*с* прибыти не ѡмешкали (Ст. 1588, 76); тот рокъ за убеспеченьем заплаты в незыщеню моем омешкал и не заплатилъ (АВК, XXXII, 46, 1596); пану Грыгорію Воловичу прыказуемъ, абы тую суму пенезей отдати не омешкалъ (АВК, I, 15, 1596); до на*с* посла*т* не ѡмешка^sте (Бельск., 172б); п҃ну моемȣ ѡзнаймити не ѡмешкаю

(Варл., 40); кара*т* и*х* за неви*н*ную кровъ не ѡме*ш*ка*л* (Зб. 752, 21б); ѡмешкалъ часу назначоного (Пралог, 573).

**Омешкатися** *дзеясл., зв. ад* омешкати. а оттоль ся послуга земъская омешъкаеть (КПД, 49, 1538).

**Омешкиваный** *дзеепрым. ад* омешкивати. съ тыхъ бы не только послуга военъная, але и кожъдая иная бывала бы не омешъкивана (КПД, 23, 1538).

**Омешкиванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* омешкивати. не годилося намъ для ихъ омѣшкиванья больши того часу тратити (АСД, I, 55, 1546); болшого предлуженья и омешкиван[ь]я, звлашча въ таковыхъ небезпеченствахъ и тривогахъ, терпети не могуть (КПД, 747, 1563).

**Омешкивати, омешковати** *дзеясл. Затрымліваць, замаруджваць; спазняцца.* подъданымъ тамошънимъ справедъливости чиничи омешъкивали (КПД, 50, 1538); абы на замокъ податка не омешкивала, дозволилъ есми тому Матею на батьковщине его Нестеровщине осести (АВК, XVII, 332, 1541); што бы ся з стороны того непріятеля нашого поновило, о томъ бы еси намъ ведати давати не омешкивалъ (КПД, 741, 1563); буду судити ... роко*в* николи не ѡмешкиваючи кро*м* великое пра*в*дивое ѡбло*ж*ное хоробы (Ст. 1566, 41б); повинна буду тую суму пенезей отъдати и заплатити, ничымъ того року и дня не похибяючы, ани омешкиваючы (АВК, XXXVI, 338, 1582); тые послове ѡбраные початку со^s^мовъ ѡмешкивати не мають, такъже и зъездꙋ головного (Ст. 1588, 76); то имꙗ побꙋжало мене во снѣ абы*х* не ѡмешкова*л* (Алекс., 6б); кождого дня не омешкивала божественная служба (АЗР, V, 4, 1633); ꙋтрени и но*ч*но*г* спеванꙗ сно*м* збы*т*ны*м* ѡмешкова*л* (Зб. 81, 61); ѡмешкова*л* мо^s^се^s^ зы^s^ти з горы (Выкл., 46).

**Омешкиватися, омешковатися** *дзеясл., зв. ад* омешкивати. абы ся справы господарьскіе и земскіе не омѣшкивали (АЗР, III, 45, 1551); потребамъ земъскимъ нигъде ся не омешъкивало (КПД, 598, 1558); за чимъ бы наданя не маючи достаточного, въ той церкви, за небытемъ свещенника, омешковатьсе мусело (ИЮМ, IX, 285, 1637).

**Омешковати** *гл.* омешкивати

**Омешковатися** *гл.* омешкиватися

**Омилити** *гл.* омылити

**Омилитисе** *гл.* омылитися

**Омилия, гомилия, омелия** *наз. Пропаведзь, казанне.* по все*м* церковамъ ... ѡмеліе чтоу*т* без титоула албо записоу и без выреченіа ихъ складача (Валх., 83); тотъ же в гомили*и* ѡ во-

площе*н*ю христовомъ мовит[s] (Унія, 12б); златоустый въ гомиліи 81 на матѳея мовитъ (Гарм., 203); Бесѣдованіе: оміліа, розмовлѧн[s]е (Бяр., 3); мовитъ ... с҃тый Григорій Нискій в[s] ѡмиліи ѡ Воскрсніи (Дзід., 23); такъ златоустый с҃тый в ѡмиліи до люду мовитъ (Сакр., 8б); златоусты[s] в гомилиѧ*х* своих пише*т* ѡ Павле с҃томъ (Зб. 259, 611).

**Оминати, оминяти** *дзеясл.* **1.** *Абмінаць; абыходзіць, аб'язджаць.* многіе купъцы, оминяючы мыта головные, дорогами незвыклыми проежъдчали (КПД, 208, 1551); многіе купцы, оминаючи мыта головные, дорогами незвыклыми проѣзджали (АЗР, III, 41, 1551); хто бы, мыто оминаючи, дорогою незвыклою ѣздилъ (АСД, III, 18, 1558); то слово ... грекове его по бо*л*шой час*т*и ѡминаю*т*, ѩко ничого не значачое (Выкл., 105); панове купцы не оминали шляху борисовского (ИЮМ, X, 27, 1695). *Параўн.* омияти.

**2.** *Мінаць, праходзіць.* южъ с҃тый часъ постный врыхлѣ оминаетъ (Каліст, I, 78б).

**Оминаючий** *дзеепрым. ад* оминати *ў* 2 *знач.* бога*т*ство, дочасную славу, роскошный покармъ и напой, и вшелѧкіи иншіи врыхлѣ оминаючіи достатки зненавидѣвши (Каліст, I, 3); хрстіане ... цвичат[s]сѧ бж҃ей мовлю, а не свѣта и вѣку сего оминаючого мудрости (Мак., 294); тыхъ абовѣ*м* речій солодкость ест[s], ѡминаючаѧ и дочаснаѧ, горкость зась вѣчнаѧ (Варл., 25).

**Оминеный** *дзеепрым. ад* оминути *ў* 2 *знач.* заразом скоро по оном оминеном року тое сумы пенезей не отдали (АВК, XXXII, 85, 1596).

**Оминенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* оминути *ў* 2 *знач.* по оминеню того року о незаплачене тыхъ всихъ пенезей ... панъ Дыбовскій насъ до права позоветъ (ИЮМ, VII, 407, 1588); по оминенью того року и дня маю ... заплатити заруки вины десеть копъ грошей (АВК, XX, 84, 1593); по оминенью того року, за неокупеньемъ ихъ, маетъ панъ Янъ Шупко тую половицу именья Намишъского держати и владети (АВК, XXXII, 201, 1596); по омине*н*ю того часу не роскаѧлъсѧ Иродъ (Каліст, II, 331б); по оминенью дня и даты вышеописаное, до скрынки мѣское совито оддать а заплатить мають (АСД, I, 277, 1634); по долгого часу оминенью (ИЮМ, IX, 292, 1637); скоро по оминенью того термину ... платить обовезали (АВК, XV, 87, 1663).

**Оминулый** *прым. Які мінуў.* абы тое сумы до дальшого термину, то есть, до светого Яна, свята римского, въ року прошломъ 1665 оминулого ... почекали (АВК, XV, 200, 1667).

**Оминути, омынути** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обминути. хто соль везеть, отъ воза грошъ мыто, а коли омынеть, гроша не давши да через его земълю, двадцать грошей промыты отъ воза (Арх. ЮЗР, VIII—4, 1, 1407); мя тая послуга господарьская оминетъ (АВК, XXI, 16, 1555); господина и свата моего, ѣханье на тотъ съемъ до Петрикова оминуло (АСД, I, 143, 1567); агглъ ... коли пс҃а по*ткал* здалека ѡмин*ѹл* но*с* за*ткнѹв*ши (Зб. 261, 151б); жидове не вси шли до своей земли боꙗчисꙗ здрады, ꙗко то ихъ ѡ*т* посторо*н*ныхъ и не ѡминѹло (Біблія, 607); што твоей милости и передъ очыма моими ходило, здалека быхъ оминулъ (АВК, XVIII, 250, 1619); вшелѧких сѣтей неприѧтелских не ѡминѹлъ (Варл., 176б—177); зачимъ и страхъ мене ѡминѹлъ (Пралог, 644); то ихъ ѡ*т* посторо*н*ныхъ и не ѡминѹло (Хран., 392б).

**2.** *Мінуць, прамінуць, прайсці.* какъ служба господарьскаꙗ ѡминеть, Миколай маеть завести землю того дворца пану Петрѹ (КСД, 198, 1514); поки бы тыи замятки оминули имѣнейцо ихъ по первому осѣло (АЮЗР, I, 73, 1528); ка*к* голодъ ѡминеть, то*т* чл҃вкъ пн҃зе[s] добы*в*ши и ему ѡ*т*дасть (Ст. 1529—Ф, 144); по то*м* часе ꙗко поветрэе ѡминеть маеть врꙗдъ в то*м* повете где естъ судъ роки выволати (Ст. 1566, 53); рок давно оминулъ, а заставы ... окупит не хочет (АВК, XXXIX, 507, 1579); по томъ часе ꙗко поветрее ѡминеть, маеть врѧдъ судовы[s] земски[s] в ономъ повете другие роки судовые ... ѡ*т*правовати (Ст. 1588, 193); ѡминѹла оуже зима, а пришла весна (Каліст, I, 78б); гды сколко часѹ ѡминѹло, настѹпилъ пост[s] великій (Мак., 16б).

**Оминутися** *дзеясл., зв. ад* оминути *ў* 2 *знач.* ся ласка Божья стала и тое злое повѣтрее оминуло (АСД, I, 37, 1536).

**Оминяти** *гл.* оминати

**Омияти** *дзеясл. Тое, што і* оминати *ў* 1 *знач.* коли в дорогѹ едешъ омиꙗешъ слизкие мѣ*ст*ца (Зб. 259, 307б).

**Омлеванье, омлевание** *наз. Дзеянне па дзеясл.* омлевати. пролиласѧ на землю печень моѧ про зломленіе дочки люда моего про ѡмлеванье детинъ (Зб. 262, 111); боудеть емоу ѡ*т* сего болезнь главнаѧ и ѡмлеваніе (Арыст., 188); коли при то*м* бѹдѹчи ѡны[s] ѡкрѹтни*к* цеса*р* стате*ч*но*ст* еи и ѡ*м*лева*н*е видѣ*л*, пере*ст*а*т* като*м* ѡны*м* каза*л* (Бельск., 352б).

**Омлевати** *дзеясл. Траціць прытомнасць.* видечи ахиѡръ голову ѡлофе*р*новѹ, ѡмлеваючи ѡ*т* страхѹ ѹпалъ на землю на тва*р* свою (Біблія, 568); ѡ*н* омлева*л* ѡ*т* раны (Бельск., 102б);

коли ѡ ꙋпадку том ꙋслышал лиси^s, ꙋпадши сердъцемъ ѡмлевалъ (Кн. Мак., 55); родичи ... ѡт здꙋмленꙗ ѡмлевали и мног слезъ того дня вылили (Зб. 82, 301). *Параўн.* омдлевати.

**Омлети** *дзеясл. Абамлець, страціць прытомнасць.* ѡн ѡмлееть и лекарь побоитсѧ и оуиметь кров (Арыст., 226); ꙋпала царевага и збледнѣвши ѡмлѣла (Біблія, 578); ѡн ѡмлѣл ѡт голодꙋ и працы (Бельск., 101); пытал его Агапей што се ему стало ижъ такъ ѡмлѣл (Зб. 752, 36); в том панна трохꙋ ѡмлѣла и ѡ водꙋ просила (Зб. 82, 26б). *Параўн.* омдлети.

**Омножитися** *дзеясл. зв. Павялічыцца.* дъхнувъшу богу омножитсѧ мразъ (Скар. КІ, 44б).

**Омова** *наз. Тое, што і* обмова *ў 2 знач.* иначе^s на жадного пана не позволгати, ѡдно с таковою певною а меновитою омовою, ижъ намъ перве^s права вси привильѧ и волности наши по ѡбранью поприсегнꙋти маеть (Ст. 1588, 68).

**Омовенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* омовити. пленипотентъ ... захованья омовенья данности и отосланья тое справы до вряду земского Виленского у насъ суду просилъ и домавялъ (АВК, XV, 418, 1681).

**Омовити** *дзеясл. Абумовіць.* што жъ ширей тотъ записъ ее въ собѣ омовя (АВК, XVII, 380, 1541); приступꙋючи до столꙋ помнил ѡмовит ниже^s, наꙋчилемсга пане покарму брати гако лѣкарства гакого (Зб. 261, 92).

**Омовляти, омовяти** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обмовляти *ў 2 знач.* арендовали ... за певную суму пенезей въ листе аренде нашей, ему даномъ, описаную, которая ширей и достаточней около того омовляеть (ИЮМ, VII, 278, 1577); иные листы от него намъ в той стправе ... даные ширей и достаточне омовяют (АВК, XXXIX, 26, 1578).

**2.** *Тое, што і* обмовляти *ў 3 знач.* абых мелъ папежа ѡмовлѧти и боронити (Унія, 28б).

**Омовятися** *дзеясл. зв. Адгаворвацца.* сам до ивони ехалъ, ѡзна^sмуючи ему ѡ том и ѡмовгаючисга, же имъ не моглъ дат рады (Хр. польск., 19б).

**Омолкнути** *дзеясл. Заціхнуць.* ѡко мое течет а не ѡмолкнеть безъ перестатьѧ (Зб. 262, 112б).

**Омолочоный** *дзеепрым. Абмалочаны.* омолочоного жыта копъ осмьдесятъ две (АВК, XX, 137, 1598); збожя всякіе ... въ гумнахъ, въ стыртахъ зложоное, такъ же омолочоное, тымъ сыномъ моимъ ... въ ровные части записую (АВК, II, 46, 1617).

**Оморкгованый** *дзеепрым. Вымераны (у маргах).* тые земли, лѣсы и сѣножати оморкгованы (АВК, XIII, 287, 1560).

**Оморокъ** *наз. Змрок.* оный есть день смꙋткѡвъ и бѣдъ, день невчасꙋ и погибели, де*н* оморокꙋ и темности (Каліст, I, 21).

**Омороченый** *дзеепрым. ад* оморочити. насъ ... до земли темнои и ѡмороченои запроважаютъ (Варл., 120).

**Омороченье** *наз. Адурманьванне.* Изꙋмленіе: Ѡшалѣнье, захожѣнѕе вѕ головꙋ зѕ горѧчки, албо ѡморочѣнѕе ѡ*т* піанства, завернѣнье головы (Бяр., 56).

**Оморочити** *дзеясл. Азмрочыць, адурманіць.* очи мои вѕ самꙋю полꙋде*н*нꙋю свѣтлость ѡморочити хотѣли, абымъ волка за ѡвцꙋ приналъ (Варл., 254б—255); темностѕю тѧ*ж*кою ѡморочилъ оумыслъ мой (Там жа, 256б).

**Оморочовати** *дзеясл. Азмрочваць, адурманьваць.* Изꙋмлѧю: ... перестрашꙋю, ѡморочꙋю, рꙋшаю, пострашꙋю (Бяр., 56).

**Омофоръ, амофоръ, онофоръ** *наз. Наплечнік архірэя.* госпожа прч*с*таꙗ даеть емоу ѡнофоръ свои (Чэцця, 107б); омофоръ бѣлый атласовый, гафтованый золотомъ (АЮЗР, I, 264, 1596); у епископовъ ... параминъ, полица, омофоръ, митра (Гарм., 214); з дрꙋгое стороны пр҃чы*с*таꙗ бц҃а ѡмофо*р* свой подавала (Зб. 752, 197); зоставивши ѡмофо*р* своѕ епископиѕ и столицꙋ, шолъ знову до монастыра (Пралог, 609); емꙋ ... пречи*с*тѧ богородица амофоръ своѕ подавала (Зб. 82, 225).

**Омоцнити** *дзеясл. Узмацніць, умацаваць.* симо*н* ѡмоцнилъ за*м*ки, и ѡбра*л* мужиѕ, и посла*л* до димитреꙗ царꙗ, абы ꙋчинили фо*л*кгу земли (Кн. Мак., 63б).

**Омоцнитися** *дзеясл., зв. ад* омоцнити. коли се ѡкрѣпили и ѡмоцнили такъ, теды изѕ подданства се и из неволи вавилонской и халдѣйской выбили (Хран., 394).

**Омочати** *дзеясл.* **1.** *Рабіць мокрым, вільготным, намочваць.* па*н*на ... на молитвѣ стала и зе*м*лю слезами ѡмочала (Зб. 107, 19б).

**2.** *Рабіць мокрым, абмакнуўшы ў што-н.* ежъ хлѣбъ и ѡмочай ꙋкрꙋхъ твой во ѡцтѣ (Біблія, 138б).

**Омоченый, омочоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* омочити *ў* 1 *знач.* стражъ ... в росе небеснои да омоченъ будеть (Скар. ДП, 16б); соло*д*кими слезами омоченъ бываю (Карп., 40); скоро мене водою ѡблили крещениꙗ, ѡныи те*ж* книги на которы*х* были списаны грѣхи мои ѡмочены су*т* (Зб. 752, 464б).

**2.** *Ад* омочити *ў* 2 *знач.* коли ѡни вошли во иѡ*р*да*н*, а ноги ихъ в части воды ѡмочоны были (Біблія, 235); волосѧницы бꙋдꙋтъ въ водѣ ѡмочоны (Хран., 119).

**Омочивати** *дзеясл. Рабіць мокрым, абмакнуўшы ў што-н.* Ѡмăкаю, ŏ: Ѡмочꙋю, мокнꙋ (Бяр., 197).

**Омочиваючий** *дзеепрым. ад* омочивати. онъ ѡ*т*поведаючи рекъ, омочиваючій со мною в<sup>ѕ</sup> солоеницы руку, тотъ ме выдасьть (Цяп., 37б).

**Омочити** *дзеясл.* **1.** *Зрабіць мокрым, вільготным, намачыць.* оумыю на кож*д*ꙋю ночь ложко мое, а слезами моими постѣль мою ѡмочꙋ (Мак., 227); слезами моими постелю мою ѡмочю (Варл., 97).

**2.** *Зрабіць мокрым, абмакнуўшы ў што-н.* хто деи со мною в[ѕ] солило рꙋкоу ѡмочи*т*, тотъ мѧ предасть (Чэцця, 318б); ногы свое омочили во краю воды іорданское (Скар. ІН, 9б); ему заказано было ... иж бы скур не мочил и не робил, нижли онъ упоромъ своимъ претсе тые скуры омочил (АВК, XXXIX, 142, 1578); омочи*л* хлѣ*б* и да*л* іюде (Каз. Кір., 94); вз*ѧ*л ризꙋ ... ѡмочи*л* еи в море (Стрыйк., 438б); палецъ ѡны[ѕ] в винѣ ѡмочи*л* (Алекс., 44б); омочилъ конецъ палца своего в[ѕ] водѣ (Каліст, II, 127б); набравши крови и ѡмочивши палецъ до*т*кнꙋвсѧ роговъ олтаревыхъ (Хран., 117—117б).

**Омочитися** *дзеясл., зв. ад* омочити *ў* 2 *знач.* прободе*н* копиемъ, жебы сѧ ѡмочила нога твоѧ в кровѣ (Зб. 752, 30б).

**Омочоный** *гл.* омоченый

**Омочюватися** *дзеясл., зв. ад* омочивати. мысли твои огнемъ ставаютъсѧ и пожадливост[ѕ]ю бж҃ею ѡмочюваютъсѧ (Мак., 331).

**Омрачение** *наз. Азмрочванне.* Еклиѱіс, за*т*мѣ*н*е, недостато*к*: е*л*: Омраченіе сл҃нц*а* и лꙋны (Бяр., 270).

**Омурованый** *дзеепрым. ад* омуровати. комора зо всех сторо*н* ѡто дна ѡмоурована а зверхоу склеписта (Валх., 61).

**Омуровати** *дзеясл. Тое, што і* обмуровати *ў* 2 *знач.* ѡмꙋровале*с* его во ѡбороне твой и домъ его и ма*е*тнос*т* его, ижъ емꙋ нихто за*ш*коди*т* не може*т* (Пралог, 660б).

**Омшара** *наз. Тое, што і* мшара. зачинаетъсе граница зъ Невлемъ рѣчки ... на ниву Гаравaху, зъ нивы Гаравахи въ омшару, зъ омшары ручаемъ въверхъ идучи на Захарьяву дуброву (АВК, XIII, 299 — 300, 1604).

**Омыванье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* омывати *ў* 1 *знач.* принѧлі держати омыванья скленицъ, и збановъ, и котловъ (Цяп., 52).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* омывати *ў* 3 *знач.* одно омыва*н*е вѣдаемо збавенное крещеніе (Каліст, I, 280б); хвалы Бж҃ей тѣнемъ и фігꙋрою были такъ же обрѣзаніе, прибыто*к*, скринѧ, стамна, ма*н*на, сщ҃енство, паленье, и ѡмыванье (Мак., 373); пре*з* ѡнꙋю водꙋ и ѡмыва*н*ю в не[ѕ] хотѣлъ сказати грѣхъ заразливы[ѕ] адамо*в* (Зб. 82, 302б).

**Омывати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обмывати *ў* 1 *знач.* ѡмываеши мѧ паче снѣга оубелюсѧ (Чэцця, 124б); коли тѣло ꙋмараетсѧ, вода омываеть (Будны, 226б); ꙋмывалница где сщ҃енники ноги и рꙋки ѡмывали (Бельск., 51б); вода омываетъ змазꙋ тѣла (Каліст, I, 166б); вода брꙋдъ ѡмывает (Зб. 259, 524); ѡмывал межи невинными рꙋки мои (Пс. XVII, 54).

**2.** *Змочваць, аброшваць.* поидѣмъ къ боꙋ҃, слезами ѡмывающе прегрешѣниꙗ наша (Чэцця, 290б); одни свое ложе стрꙋменемъ слезъ горѧчихъ вночи омывали (Лям., 11—12); великим их дожщемъ слезъ ѡмываеть (Зб. 255, 176); бꙋдꙋ плачемъ ѡмывалъ и ꙗлмꙋжнами ѡткꙋповал грѣхи (Выкл., 121).

**3.** // *перан. Рабіць чыстым у маральных адносінах.* хсъ ... крщенье приѧл, грѣхи наша ѡмываꙗ (Чэцця, 252б); дх҃ъ ст҃ый омываеть грѣхы (Будны, 234); попел грехов ѡмывал (Зб. 261, 84б); нбсный ѡный ѡгонь ... ѡчищаетъ, ѡмываетъ и посвѧчает<sup>s</sup> срдца ихъ (Мак., 122—123); хс҃ ... променми ласки свое<sup>s</sup> ѡсвещает и ѡмывает дꙋшу е<sup>s</sup> (Зб. 255, 171); кровъ хстова ажъ до сꙋмненꙗ проникает и ѡные ѡмывает (Зб. 259, 529б); ꙗ не навыкъ безгрѣшных ѡмывати (Зб. 82, 305).

**Омыватися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* омывати *ў* 1 *знач.* великое сл҃нце въ ердане ѡмываетсѧ (Чэцця, 124); придалосе же се ѡмывал во ѡно<sup>s</sup> рецѣ (Алекс., 13б—14); ѡдѣн<sup>s</sup>ѧ ихъ, гды сѧ забрꙋкают<sup>s</sup>, не ѡмывают<sup>s</sup>сѧ водою, але ѡгнемъ (Мак., 122); тот сосꙋдец нигды водою не ѡмываетсѧ (Зб. 107, 107).

**2.** *Ад* омывати *ў* 2 *знач.* тѧжкіе вздыханѧ выпꙋскаючи и слезами сѧ ѡмываючи, ѡдинъ самъ з тымъ самымъ всюды бꙋдꙋчымъ розмовлѧл<sup>s</sup> (Варл., 319б).

**3.** *Ад* омывати *ў* 3 *знач.* з<sup>s</sup> кождого грѣха не омываемосѧ (Каліст, I, 280б).

**Омываючий** *дзеепрым. ад* омывати *ў* 1 *знач.* далъ имъ абовѣмъ водꙋ очищеніа, омываючꙋю вшелѧкꙋю змазꙋ (Каліст, I, 122б).

**Омыла** *наз. Памылка.* ачь бых справно ѡмылилсѧ со мною ѡбитꙋеть ѡмыла моѧ (Зб. 262, 20); мнѧт оубо иже ѡмыла лѣкарева мала шкодою своею (Арыст., 219). *Параўн.* омылъ.

**Омыление** *гл.* омыленье

**Омыленый** *дзеепрым. ад* омылити. абы черезъ писаный статутъ не были люди омылены а справедливость ни передъ кимъ не была закрыта (КПД, 120, 1544); згинемо ꙗ и соломон сын мой ѡмылени и взгаржени (Біблія, 401); видꙗчи иж в надѣи ѡмылены, церкви монастирѣ ... спалили (Стрыйк.,

465б); былъ омыленъ ѡ*т* вѣщкѡвъ (Каліст, II, 264); в<sup>s</sup> надѣи своей былъ ѡмыленый (Варл., 259); не есть есми ѡмыле*н* (Пс. XVII, 61б).

**Омыленье, омыление** *наз. Дзеянне па дзеясл.* омылити. видѣлъ есми ... ѡмыленіе што выходить ѡ*т* лица володителева (Зб. 262, 91б); Блазнь: Згоръшенье, злазнен<sup>s</sup>е, ѡмыле*н*е (Бяр., 7).

**Омылити, омилити** *дзеясл. Ашукаць.* онъ мѧ омылилъ (Скар. IC, 25б); съ обеюхъ сторонъ о рокъ на присягу омылили (АВК, XVII, 286, 1541); его таѧ рада не ѡмылила (Атыла, 223); его то ѡмилило (Стрыйк., 418); смерть на тебе прійдетъ, и всю надѣю твою омылитъ (Каліст, II, 157б); надѣѧ наша намнѣй не ѡмылить (Варл., 62б).

**Омылитися, омилитисе, омылитьсе** *дзеясл. зв. Памыліцца.* ѡмылился есми, не въ своего коня есми вклепался (КСД, 42, 1510); в томъ листе ... писа*р* сꙗ ѡмылилъ где мелъ написати имꙗ пана иваново тѹтъ ѡ*н* написа*л* имꙗ пана павълово (КВЗС, 42б, 1538); не ѡмылилъсѧ есм, назвавши таковыѧ ѡбещаніа сѣтью діавольскою (Будны, 29б); церко*в* ѡмылитьсе николи не можеть (Бер. саб., 48); ѡ*т* кгреко*в* ѡ*т*пали, што се в то*м* ве*л*ми ѡмилили (Бельск., 359); в<sup>s</sup> прозбѣ сѧ не омылилъ (Каліст, II, 189б); в<sup>s</sup> надѣи моей, ꙗкъ вижу, ѡмылилем<sup>s</sup>сѧ (Варл., 182б); богъ ... в сѹжению ѡмыли*т*се не можеть (Зб. 255, 398б); в<sup>s</sup> надѣи свое<sup>s</sup> не ѡмылилисꙗ (Пралог, 561); такаѧ теды Цр҇ковъ есть ри*м*скаѧ, котораѧ в<sup>s</sup> Вѣры ст҇ой ани ѡмылиласѧ, ани ѡмылитсѧ николи (Зб. вып., 96б).

**Омылка** *наз. Памылка.* абы омылки а непослушенства около того не было (КПД, 696, 1563); где бы которы<sup>s</sup> писаръ в омылце або недоложе*н*ю ꙗкого писа*н*ѧ бы*л* ѡбвине*н* таковы<sup>s</sup> ѡ то такежъ позыванъ быти може*т* до судѹ головного (Ст. 1588, 183); где бы се в пробе померы тое омылка якая и шкода показала (АВК, XXX, 17, 1589); нигде инде омылка безправе всказ неслушный врядовый не бывает узнаван (АВК, XXXII, 59, 1596); што не вѣдаю если емѹ из омылки, если з невстыдливости и налогѹ кламан<sup>s</sup>ѧ приходитъ (Апакр., 143б); до неи зъ ѡмы*л*ки прибѣглъ (Стрыйк., 489б); въ которыхъ бы всякому не возможно было омылки учинити (АЗР, V, 29, 1637); бе*з* ѡмылки божиꙗ справа была и ѡбъꙗвене (Пралог, 677б); тою омылкою сѧ мылишъ (Хран., 181); што в<sup>s</sup> иншихъ екземплꙗра*х* естъ церте сталосꙗ ѡмы*л*кою писаровъ (Выкл., 93б). *Параўн.* омылокъ.

**Омылне** *гл.* омыльне

**Омылникъ** *наз. Ашуканец.* не даваˢсѧ заводити тымъ ѡмыл-никомъ дѧволскимъ (Зб. 259, 32б).

**Омылность** *гл.* омыльность

**Омылный** *гл.* омыльный

**Омылокъ** *наз. Тое, што і* омылка. Поплъзновеніе: поползенье, послизненье, ѡмылокъ (Бяр., 112).

**Омылъ** *наз. Тое, што і* омыла. абы ся каждая реч справовала справедливе без кождого омылу (СДГВ, 58, 1536).

**Омыльне, омылне** *прысл. Памылкова.* то в нас наˢдем не толко позверховне ѡмылне змышлоне (Зб. 261, 141); штоколвекˢ ѡмылне и неоуважне мовити мѣлˢ (Варл., 40б); тых зовемі ѡмылне екземплѧре кгрецкии (Выкл., 29б).

**Омыльность, омылность** *наз. Памылковасць.* панъ Райский за омыльностью справою ихъ земли у волоки померилъ (АВК, XXIV, 89, 1534); въ чомъ великіе омыльности и потвары въ справедливостяхъ людскихъ ся деють (КПД, 126, 1544); намъ усимъ готовымъ быти кажеть, не ухваючы омыльности сего света (ИЮМ, XXIII, 345, 1623); зрозꙋмѣвши ѡмылност свѣта того чернцемъ зосталем (Дыяр., 159); велми завстыдалемсѧ своеˢ ѡмылности (Жыц. св., 98б); ѡнъ тепер промовилъ и ѡдволалъ людъ своˢ жалꙋючи ꙋпадкꙋ и ѡмылности своеˢ (Пралог, 672б).

**Омыльный, омылный** *прым. Памылковы.* естъли жебы сѧ домышлѧли есте трудныи и омылныи судˢˢбыти межи кровию и кровию (Скар. ДЗ, 35б); кгды бы се тот жэ другиˢ раз тог допустил таковыˢ ѧко ѡмылныˢ слуга рэчи посполитое горло тратить (Ст. 1566, 23б); за омылнымъ даньемъ справы отъ Стефана Зызанія, вины якіесь на велебномъ отцу митрополитѣ всказали (АЗР, IV, 136, 1596); латинскій выкладъ нового завѣта есть омылный (Апакр., 96б); они, свещенники, передъ его кор. млстю справу омылную дали (ИЮМ, VIII, 285, 1609); не причинѧйте жъ приносити офѣръ омылных (Каліст, II, 345); абысте ваша милость отъ тое омыльное жалобы жыдовское увольнить рачыли (АВК, XXVIII, 158, 1635); ѡт правды ѡдвернꙋвшисѧ, ѡмылнымъ малеванем зводишˢсѧ и ѡшꙋкиваешˢ (Варл., 287); тот процес бачечы быт ѡмылны гонорови и доброˢ славе ег (КАР, 30б, 1646); поневолне и ѡмылнꙋю роскошъ телесную стратилъ (Зб. 107, 124).

**Омыляти** *дзеясл. Ашукваць.* въ милостыни нищего не омылѧи (Скар. ІС, 9б); хто ѡмылѧеть прѧмыи пꙋтем злым въ ѧмꙋ свою ѡнъ оупадеть (Зб. 262, 107б); таковаѧ надѣжа омылѧеть (Будны, 162б); ништо такъ не ѡмылѧеть, ѧкъ парсуна челове-

ческа (Трыст., 108); леч и таѧ практика же омылѧетъ часто, досвѣдченье свѣдчитъ (Апакр., 220б); бѹдѹ сѧ молил, але не ѡмылѧ[s] (Бельск., 43б); до ѡхвери хвой ѡбое способне идѹть, хвалѧчи за такѹю ѡпатрность гда бга, котори[s] собе дѹхваючих не ѡмылѧет (Пралог, 683); хвалила бга, которы[s] надѣи не ѡмылѧет (Зб. 82, 37).

**Омылятися** *дзеясл., зв. ад* омыляти. чомѹж ѡмылѧешсѧ снѹ мои чѹжою и ѡбыимаешь пазѹхѹ стороннее (Зб. 262, 95б); тіи вельми сѧ омылѧли, бо оное знаменію приписовали, што самои рѣчи приписовати мѣли (Будны, 215); мног ѡмылѧютсѧ лѣкари въ людех а оуморѧють их (Арыст., 219); тыи теды цареве в том се ѡмылѧли же ихъ зоставлѧли (Біблія, 484); тут не вѣм которие сѧ на том вышемире ѡмылѧют, если старие кро[s]никари, чили теперешніи (Хр. польск., 1б); Погрѣшаю: похиблѧю, не трафлѧю, ѡмылѧюсѧ (Бяр., 107).

**Омынути** *гл.* оминути

**Омыслити** *дзеясл. Тое, што і* обмыслити *ў* 1 *знач.* омыслили есмо о томъ, какъ бы онъ ко отчине своей пришолъ добримъ концемъ безъ кровопролитья (КЗ, 460, 1486).

**Омыти** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* обмыти *ў* 1 *знач.* прихоживал омыти недоуги своѧ (Чэцця, 72б); принесу мало воды да омыють нозе ваше (Скар. КБ, 31б); омылъ их раны (Будны, 6б); ѡмывши черева его и ноги и спалишъ зо всимъ всего барана на ѡлтарѹ (Біблія, 146); тѣло ѡмыет водою (Бельск., 57б); намазалъ болотомъ очи слѣпомѹ и рѣклъ емѹ, иди омый в[s] сажавцы (Каліст, I, 140); знѧвши з[s] ней спросныи сѹкманиска брѹдъ и кал[s] ѡмылъ (Мак., 252); взѧли воды во ѹмывалницѹ и ѡмыли емѹ ноги (Зб. 752, 579).

**2.** *Змачыць, арасіць.* бѣдница ... слезами ноги ѡмыла (Чэцця, 115); змазы слезами ѡмыемо (Варл., 94б).

**3.** *Тое, што і* обмыти *ў* 2 *знач.* светым крещѣнием ѡмылъ скверноу прегрешѣнии наших (Чэцця, 358б); освобод нас и ѡмый грехы нша (Пс. XVI, 82б); покѹты банею грѣхи омыемѡ (Каліст, II, 35б); ѡмыи мѧ ѡт безаконіѧ моего (Навука, 95); коли ѡмыемъ грех, ласкѹ божѹю на[s]дем (Зб. 255, 93); крови хстовое ... една кроплѧ всѣхъ люде[s] трѹдъ на дѹши бѹдѹчи[s] ѡмыти может (Зб. 259, 529б); ѡмы[s] же мѧ што наболше[s] ѡт злости моеи (Пс. XVII, 32б).

**Омытие** *гл.* омытье

**Омытися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* омыти *ў* 1 *знач.* повелѣл еси емѹ ѡмытисѧ въ ерданѣ рецѣ (Чэцця, 103б); самъ да омыетсѧ во-

дою (Скар. КЛ, 30); ѡголит вси волосы тѣла и ѡмыетсѧ водою (Біблія, 165); том ... впадеть в дол а потом бꙋдет вывлечоныѕ и ѡмыеться (Зб. 261, 130б); ѡмыйтесѧ и чыстыми бꙋдете (Варл., 320б); жена з которою спалъ ѡмыетсѧ водою (Хран., 120б).

2. *Ад* омыти *ў* 3 *знач.* мовитъ, ѡшакже омылистесѧ, очистилисте сѧ, и освѧтилисте сѧ не крещеніемъ Іѡанновым, але именемѕ Гд҃а нашего (Каліст, II, 277).

**Омытый** *дзеепрым.* 1. *Ад* омыти *ў* 1 *знач.* омытѕ сыи водою (Скар. КЛ, 30); тые сꙋть ѡмытые (Навука, прадм.); золото зѕ мнѡгого болота омыто (Мак., 163); тѣло ꙋже ѡмытое во плащеницꙋ ꙋвинꙋли (Зб. 255, 307).

2. *Ад* омыти *ў* 3 *знач.* ѡт грѣхѡвъ кровію его омыты (Апакр., 61); омыты есте, посвѧчены есте ... именемъ Гд҃а Іс҃а (Каліст, II, 291); семъ дн҃иѕ перепостившы ѡсмого ѡт всѣхъ грѣхов вашых ѡмыти бꙋдете (Зб. 82, 15).

**Омытье, омытие** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* омыти *ў* 1 *знач.* абы было часто в кꙋпели ꙋмывано, чого бы не годилосѧ чинити пред ѡмытемъ мира (Навука, прадм.); воды зѕ морѧ до ѡмытьѧ хꙋстъ, и до потравъ еи не оуживаютъ (Мак., 348); вода ... до ѡмытѧ всѣхъ нечистыхъ речій оуживаетѕсѧ (Варл., 239б); скꙋтечно ѡмытие, если белеѕ реки иѡрданское котораѧ вода (Зб. 259, 529б); фурману за привезене воды до дому меского подолнего на омыте светлицы исъ коморкою, за семъ возъ дали осмаковъ двадцать одинъ (ИЮМ, IV, 241, 1686).

2. *Дзеянне па дзеясл.* омыти *ў* 3 *знач.* вышла из него кровь и вода на ѡмытье всех грехов наших (Пак. Хр., 13б); крещенье перво посполите звали омытье (Цяп., 52б); бъ҃ ѡтцъ збавенными нас оучінил през ѡмытье ѡтроженіѧ и ѡтновленіѧ дх҃а ст҃го (Каз. Кір., 100); кр҃щеніе естъ омытіе грѣха первороднаг (Навука, 12); ѡмытѕемъ бозского крещеніѧ ѡт грѣховъ молодости и невѣдомости моей естемѕ ѡчищеный (Варл., 275б); бꙋдꙋ чинил с пилностю то все, што колвекъ чинити потреба на ѡмытѕе и ꙋздоровленѕе грѣхꙋ моего (Выкл., 121).

**Она** *займ.* 1. *Яна (ужываецца замест назоўніка жаночага роду адзіночнага ліку, які абазначае ў папярэднім кантэксце прадмет гаворкі).* ѡна закликала рекоучи даите ми пристꙋпити абых оувидела сн҃а моего (Жыц. Ал., 99); ѡна передъ нами тастомѣнтъ покладала (КСД, 58, 1510); она на служъбу, на которую повинъна, не послала (КПД, 22, 1538); понѧл жону з великого племени, и ѡна его не мела ни за ѡдин пѣнез (Бава,

